Новая дырэктар →3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Гродзіск → 9



http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 31 (2933) Год LVII | Беласток, 29 ліпеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Хто не мадэрнізуецца — той ступае назад



Фота Ганны Кандрацюк

З Аляксандрам БАНДАРУКОМ, дырэктарам керамічнай фабрыкі ў Ляўкове, гутарыць Ганна Кандрацюк.

**Ганна Кандрацюк:** *— Ці хтосьці злічыў колькі дамоў за сорак гадоў існавання фабрыкі пабудаваных з Вашай цэглы?*

Аляксандр Бандарук: — Калі паставіць тыя ўсе дамы, а яны розных параметраў, то будзе горад на дзвесце тысяч людзей.

*ГК: — Такі Беласток...*

АБ: — Кожны дзень з фірмы выязджае 20-25 аўтафур з цэглай. Прадаем яе ў галоўным на Беласточчыне, у Мазавецкім, Мазурска-Вармінскім, Люблінскім ваяводствах. Сваіх пакупнікоў знаходзім у Гданьску, Катавіцах, Жэшаве...

У нашым выпадку не аплачваецца прадаваць, калі да кліента больш за 200 кіламетраў. Гэта дадатковыя кошты. Калісь пакупнік набываў цэглу, браў яе і сам развозіў, а сёння нам трэба давезці і разгрузіць...

*ГК: — Вашае імя неразлучнае з ляўкоўскай цэглай. Скажыце як Ваш асабісты лёс і гісторыя фабрыкі спалучыліся ў адно?*

АБ: — Маю бацькаўшчыну відаць з акна фабрыкі, тут *на рагеві* (*спадар Бандарук паказвае мне праз акно месца дзе жылі яго бацькі*). Я тут жыў і на маіх вачах будавалася фабрыка. Сам я даяжджаў працаваць у другое месца. Я па прафесіі будаўнік, то падумаў, каб мець працу ў сваёй вёсцы. І калі будавалі другі аддзел фабрыкі, я ўладкаваўся на пасаду будаўнічага інспектара. Займаўся купляй вугалю, продажам цэглы. Тады не было праблем са збытам, усё ішло *на пню*. Пры Кастусю Майсені я стаў яго наместнікам, а калі ён адышоў, Беластоцкае прадпрыемства будаўнічай керамікі, бо пра ўсё тады вырашалі вярхі, паставіла мяне дырэктарам. Я тады быў маладым чалавекам, мне было за трыццаць. Нашае прадпрыемства працавала поўным махам. Мы выпускалі 74 мільёны керамічных адзінак у год. На фабрыцы працавала 390 чалавек, з многіх мясцовасцей і суседніх гмін: з Нараўкі, Масева, Міклашэва, Альхоўкі, Барысаўкі, Навасадаў, Гайнаўкі. Мы давозілі іх на *асінобусе*...

Зараз у нас стабілізацыя, амаль усе рабочыя з Ляўкова, Нараўкі, Лешукоў... Не скажу, каб мы адсылалі людзей на брук. Нашае грамадства проста паменшылася. Сёння пры тэхналагічных навінках, якія прынеслі палёгку і павысілі эфектыўнасць вытворчасці, у нас працуе 120 чалавек. У сувязі з мадэрнізацыяй мы патрабуем больш механікаў, электронікаў...

*ГК: — Давайце вернемся да асобы Кастуся Майсені.*

АБ: — Майсеня дзе быў, там пакінуў трывалы след. Пасля таго як ён даверыў мне фабрыку, я працаваў яшчэ 9 гадоў. А пасля пайшоў у Гайнаўку, бо дастаў там кватэру, і трэба было зноў даязджаць...

*ГК: — Кватэру ў блёку?*

АБ: — У блёку (*смяецца*). Восем гадоў я працаваў у Гайнаўскім жыллёвым кааператыве...

*ГК: — А пасля Вы зноў вярнуліся ў Ляўкова, каб ратаваць фірму.*

АБ: — У 1991 годзе прадпрыемства адышло ад цэнтралі і стала самастойным. Тады прыехалі да мяне людзі і папрасілі, каб я прыняў удзел у конкурсе на дырэктара фірмы. Я перамог усіх кандыдатаў і ўжо 21 год самі змагаемся ў новай рынкавай рэчаіснасці.

*ГК: — Калі меркаваць па рэкламе, у Вас, здавалася б, адны поспехі?!*

АБ: — Усё мацней памяняліся. Наша праблемай з'яўляецца агромная канкурэнцыя. Ужо 15 фабрык мае заходні капітал і ў іх іншыя магчымасці, калі ідзе пра продаж вытворчасці. Кошты прадукцыі растуць, а цана цэглы стаіць на адным узроўні ўжо некалькі гадоў. Я з прыемнасцю ўспамінаю 2007 год, калі мы прадалі ўсю прадукцыю, прыпасы і пра цану ніхто не пытаў. Мы маглі прызначыць сродкі на інвестыцыі. Калі няма інвестыцый, няма будучыні. Той, хто не мадэрнізуецца, той ступае назад. Нашая фабрыка найлепшая ў ваяводстве, хаця ў маштабе краіны яна на сярэднім узроўні. Мы карыстаемся нямецкімі і швейцарскімі машынамі, маем японскі робат... Супрацоўнічаем з прадпрыемствамі ў нашай галіне з Чэхіі, Грэцыі, Іспаніі, Італіі, Францыі. Сустракаемся, параўноваем...

У сучасны момант праблемай з'яўляюцца несумленныя пасрэднікі, фірмы, якія бяруць тавар, адцягаюць справу заплаты, а пасля знікаюць з рынку. Трэба памятаць пра дадатковыя страхоўкі, пільнаваць, каб хто не ашукаў. Шмат сродкаў трэба прызначыць на дзейнасць экспедыцыйных фірм.

*ГК: — Скажыце тады, колькі трэба грошай, каб купіць цэглу на дом і гараж?*

АБ: — Сёння гэта вельмі малая сума, 12 тысяч. Гэта каля пяці адсоткаў усіх коштаў пабудовы дома.

*ГК: — Ці былі спробы прадаваць ляўкоўскую цэглу ў Беларусь?*

АБ: — Я быў некалькі разоў у іх, гавары́ў. Нам аднак зручней прадаваць ў зоне еўра, таму што ў нас еўрапейскі сертыфікат. Каб прадаваць у Беларусь, трэба атрымаць яшчэ іх сертыфікат. Там таксама мода на белую, а не чырвоную цэглу. Зручней нам, напрыклад, увайсці на літоўскі або латышскі рынак. Там больш заможныя групы людзей адыходзяць ад белай у карысць чырвонай цэглы, бо ведаюць, што яна найлепшая.

*ГК: — Як Ваша фабрыка ўплывае на жыццё мясцовых беларусаў?*

АБ: — Калі праязджаю праз іншыя нашыя вёскі, я бачу іх апусцеласць, як рассыпаюцца дамы. У Ляўкове ўсе дамы заселеныя, адрамантаваныя, няма вольных памяшканняў. Людзі адсюль менш выязджаюць у свет за работай. Тыя грошы, якія дае фабрыка, разыходзяцца тут, на месцы. У вёсцы працуе аж пяць крамаў, і кожны дзень там даставляюць тавары. З самога агратурызму цяжка выжыць. Трэба мець добрую задуму, чымсьці праславіцца, вылучыцца, каб прыцягнуць турыстаў.

*ГК: — Бізнесмен Аляксандр Бандарук гэта таксама цудоўны спявак. Памятаю Вас як саліста беларускіх фестываляў.*

АБ: — Я выступаў з Гайнаўскім беларускім хорам як тэнар яшчэ за Аляксандра Лукашука. Гэта быў мой першы настаўнік спеву. Пасля мне прыйшлося працаваць з вядомымі майстрамі і музыкантамі. Я выступаў не толькі на беларускіх фестывалях, прымаў удзел у конкурсах савецкай песні. Але не хачу, каб гэта выглядала як хвальба. Я люблю музыку і ў час застолляў людзі заўсёды мяне прасілі, каб ім штось заспяваць.

*ГК: — Як Вы адчувалі сябе ў беларускім касцюме на вялікай сцэне?*

АБ: — Мне гэта не перашкаджала, наадварот, я адчуваў вялікі гонар. Пасля выступленняў у Гайнаўскім хоры я стаў актыўным удзельнікам „Цаглінак". Я іх хросны бацька.

*ГК: — Гурт „Цаглінкі" — дзіця і жывая, прыгожая рэклама Вашай фабрыкі?*

АБ: — Сёння нашыя спевакі дасягаюць поспех за поспехам. На Беларусі знялі пра нас фільм. Мы таксама выконваем культурную ролю ў сваім асяроддзі. Праўда, сёння наш гурт пайшоў пад крылы войта, але мы і так з ім атаясамляемся. Калі можам, дапамагаем...

*ГК: — А якая Ваша любімая беларуская песня?*

АБ: — „Ой, Нёман, ты бацька". З гэтай песняй звязаны мой першы вялікі поспех — першае месца на фестывалі...

Люблю таксама голас прыроды. Калі хто быў у Ляўкове ў маі, раніцай або вечарам, чуў хор жаб. Гэта такі канцэрт — не раскажаш словамі. Яны іграюць рознымі галасамі, адны каркаюць, другія квакаюць. Я сам да гэтых жаб прывык, не магу дачакацца, калі ўсё адновіцца вясной. Жабы пануюць тут у цэлай прасторы. Гэта такая прыгажосць!

*ГК: — Ці Вы адчуваеце сябе дацэненым чалавекам?*

АБ: — Думаю, што так. Два гады таму Управа гміны прысвоіла мне званне Заслужанага для гміны Нараўкі. Маю працу дацаніла Гайнаўскае староства, я атрымаў адзнаку Заслужанага для Беласточчыны. Маю некалькі дзяржаўных узнагарод.

*ГК: — А якія ў Вас мары, праекты на будучыню?*

АБ: — Хацелася б, каб прыйшоў хтосьці малодшы на маё месца і каб развіваў нашую прамысловасць. Я не згодны, калі наракаюць на маладых, калі кажуць, што яны пустыя. Не, моладзь ёсць добрая і мы павінны на яе спадзявацца.

*ГК: — Дзякую за размову і магчымасць пабачыць фабрыку для ўдзельнікаў Сустрэч „Зоркі".*

АБ: — (*У адказ спадар Бандарук пасылае ўсмешку і пытанне*) А вы заўсёды так прынцыпова гаворыце з усімі па-беларуску?

9 770546 196000



# Мядзведзеў і мядзведзікі

На мінулым тыдні ў сталіцу пакуль яшчэ суверэннай Беларусі „пожаловал барин” — прыехаў напышлівы прэм’ер матухны Расіі Дзмітрый Мядзведзеў. Напярэдадні візіту і ў яго дзень васалы з мясцовай адміністрацыі зноў правялі „хапун” сярод беларускіх маладзевых актывістаў і тых, хто выступае супраць пабудовы ў Беларусі расійскай атамнай станцыі. Зачасцілі крамлёўскія тандэмакраты ў нашу краіну апошнім часам. Зусім нядаўна прыязджаў новы-стары прэзідэнт Пуцін, цяпер вось яго намеснік. Беларусь для Крамля — тэрыторыя палітычнага рэваншу, асноўная надзея адраджэння новай імперыі. У выніку сваёй агрэсіўнай, але прымітыўнай і недальнабачнай палітыкі ў дачыненні да іншых дзяржаў, Масква церпіць паразу за паразай. Пачалося гэта яшчэ з Афганістана, вайна з якім прынесла ганьбу і паспрыяла развалу Савецкага Саюза. Прадоўжылася з Югаславіяй — каб Крэмль не абяцаў падтрымкі Мілошавічу, крыві і страт было б куды меней. Ну а ў зусім нядаўняй гісторыі саюзнікі Крамля — спрэс дыктатарскія рэжымы — пасыпаліся адзін за адным: Хусейн у Іраку, Кадафі ў Лівіі, цяпер вось настаў апошні час для Асада ў Сірыі. Усё тут з боку Расіі ішло і ідзе па адным упартым сцэнарыі — падтрымка тыранаў да агоніі, а потым іх кіданне і фатальны зыход. Масква толькі прайграе ў выніку сваёй знешняй палітыкі і адначасна павялічвае колькасць ахвяр у такіх краінах. Кепска скончацца і яе загульванні з іранскім шаленцам Ахмадзінежадам, прычым на гэты раз верагодна непасрэдна кепска для самой Расіі. Ды, відаць, не павярнуць стырно гісторыі.

Але вернемся да нашых бараноў і мядзведзяў. Дзмітрый Мядзведзеў прыехаў у Мінск з чарговым „чамаданам” грошай. Успомнілася тут мне адна старая, але, на жаль, актуальная карыкатура. Тоўсты мядзведзь з каністрай нафты сядзіць на бусле, а той знізу хрыпіць: „Без Расіі мне будзе цяжка падняцца”. Мядзведзеў ці Пуцін на сапраўднага мядзведзя знешне падобныя не вельмі, хутчэй на іншых, больш дробных, прадстаўнікоў фаўны. Вось Ельцын сваёй паставай вельмі адпавядаў гэтаму вобразу. Як бы там не было, „братэрскія абдымкі” Масквы становяцца ўсё мацнейшымі. Што патрабаваў Мядзведзеў на гэты раз — мы дакладна не ведаем, але без цяжкасці можам здагадвацца. Справа зараз больш сур’ёзная, чым ранейшыя „халяўныя” пастаўкі нафты ці газу. Падпісаны генеральны кантракт на пабудову ў Беларусі расійскай атамнай станцыі. Беларускіх і расійскіх эколагаў, якія імкнуліся перадаць у расійскую амбасаду зварот да іхнага прэм’ер-міністра, арыштавалі і кінулі за краты. Іх дзеянні не ўпісваюцца ў канву агульнага шчасця ад факту пабудовы АЭС. У Беларусь цяпер пад прыкрыццём мірнай атамнай электрастанцыі могуць вярнуцца ядзерныя ракеты. Усе нязгодныя з такой пагрозай будуць „зачышчацца” бязлітасна.

Іншыя падзеі апошніх тыдняў разгортваліся вакол палявання на плюшавых мядзведзікаў. Гэтыя цацкі раскідалі непадалёк беларускай сталіцы шведскія пілоты, якія прыляцелі на лёгкаматорным самалёце і здзейснілі дзёрзкую акцыю ў падтрымку палітычных зняволеных. Хвалёная сістэма агульнай расійска-беларускай супрацьпаветранай абароны самалёт увогуле не заўважыла. Спярша факт парушэння паветранай мяжы аспрэчваўся ўвогуле. Ну а потым пачалася сапраўдная істэрыя — спецслужбы пачалі хапаць усіх, хто гэтых шведаў мог бачыць і чуць, хто размясціў здымкі ў інтэрнэце. Ледзь не дзяцей пачалі арыштоўваць. А за што ўласна? Ледзь не за дапамогу ў дыверсіі. Тэатр палітычнага абсурду папоўніўся яшчэ адным спектаклем. Хай бы лепш гэтыя спецслужбы заняліся генераламі, якія з-за фуражак не бачаць неба, а з-за тоўстых жыватоў — зямлі.

Некалі ў Маскву на малым самалёце прыляцеў нямецкі юнак Маціяс Руст і прызямліўся на Краснай плошчы. Неўзабаве разваліўся „союз нерушимый республик свободных”. Зараз на беларускую зямлю дэсантаваліся плюшавыя мядзведзікі. Можа гэта таксама стане добрым знакам?

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Што ў Бабруйску?



У Беларусі ўсё смяшней. Ды каму да смеху, а каму — да плачу. Працаўнікам трактарнага завода ў Бабруйску не было зусім весела, калі на пачатку ліпеня даведаліся аб тым, што іх зарплата будзе скарочана на 45%. Гэтае, невядома адкуль узятае, рашэнне дырэкцыі прадпрыемства вельмі ім забалела. Праўда, з продажу трактароў пачаліся нейкія непаладкі, але іх выраб ішоў на ўсю катушку. Ніхто не гультайнічаў, не псаваў. Дык чаму хтосьці з іх меў быць пазбаўлены зарплаты за сумленную работу? Дырэкцыя фабрыкі не схацела даць адказу на гэтае простае пытанне. Дык зняважаныя работнікі пачалі страйк. Больш ад імя гонару, думаю, чым пустога страўніка. Бо ж грушкамі на вярбе, якія абяцае ім Аляксандр Лукашэнка, жывата не накорміш. Тым больш, што беларуская эканоміка, кіраваная гучнагаварыцелем прэзідэнцкіх дэкрэтаў, адцятая ад сучасных тэхналогій і заходніх банкаў, на канец не будзе ў змозе забяспечыць нават кнышом. А калі б і нават, дык чымсьці такім цяжка нажэрціся.

Беларусы, ад вякоў прыгнечаныя цяжарам вядомай цярплівасці, урэшце ж не вытачаныя з загартаванай сталі, маюць мазгі і страўнікі, і на канец... страцяць цярпенне. А нецярплівы беларус робіцца страшным! І такога земляка, як салома агню, баіцца Лукашэнка. Ліе таму колькі ўлезе ваду, каб астудзіць распаленыя галовы некаторых землякоў. Аднаму абяцае грушкі на вярбе, і той у гэта яму верыць. Другому страсяне пальцам, дык той прыгнецца. Трэцяму глыбока ўвапрэ палец у чэрап і там калупаецца, верціць, скрабе ў ім датуль, пакуль не дакалупаецца да шышкавіднай залозы, дзе — паводле Дэкарта — змяшчаецца чалавечая душа. Душу, аднак, нялёгка высвідраваць з чалавечай абалонкі, як костачку з вішні. Ды можа і гэта магчымае. На колькі хтосьці на такое дазволіць. У афармленні постсавецкай канатацыі і калгаснай эстэтыкі снуецца нямала бяздушных марыянетак, якімі аніміруе Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама спісвае дыялогі. Разнамасныя жулікі: журналісты, чынушы, міністры, паліцмайстры, салдатня і прафесары ўжо даўно прымаюць удзел у графаманскім спектаклі для ідыётаў, якога ён з’яўляецца аўтарам і рэжысёрам. Толькі што ў глядзельнай зале не адны ідыёты.

Відаць, дырэктар трактарнага завода ў Бабруйску аб гэтым не падумаў, што не здзіўляе, таму што прыпісаная яму роля клакера ў Лукашэнкаўскім спектаклі адрознівае яго ад іншых гледачоў тым, што тыя ў невялікай частцы сапраўды ідыёты, ды ў большасці гэта разумныя людзі, якіх дырэктар лічыць ідыётамі. Тым часам гэта ён сам з сябе меў зрабіць дурня. І зрабіў, заяўляючы працаўнікам, пратэстуючым супраць несправядлівага — на іх думку — скарачэння заработнай платы — тут паўтараю за карэспандэнтам тэлебачання Белсат — што ён для іх «цар і бог, і калі захоча, дык заработную плату скароціць нават на 100 працэнтаў!».

Пераапрананне ў адзенне «бога і цара» дырэктару дзяржаўнага прадпрыемства не да твару. На жаль, прыклад ідзе зверху, што не значыць, што абы дырэктарчык можа бяскарна ісці следам свайго высокага майстра. Для нікога не з’яўляецца сакрэтам, што «цар і бог» у Беларусі толькі адзін — Аляксандр Лукашэнка. А ён не пераносіць ніякіх канкурэнтаў да ўлады, ну, хіба што паўкідае іх за калючыя драты лагераў.

Цар не цар, бог не бог, Аляксандр Лукашэнка і так усюды прысутны. Уключаю тэлевізар — ёсць! Адкрываю газету — ёсць! І маю тут на думцы не адно беларускія СМІ. У французскіх, польскіх, амерыканскіх ён прысутны не менш, чым у кітайскіх ці арабскіх. Толькі ў Беларусі ён не прысутны — ён усюдыісны! Нават тады, калі ён прысутны ў іншым месцы. Напрыклад, упрысутніўся ён у Венесуэле, хаця ў Беларусі не паменшала яго ані крышку. Спазіраў на сваіх землякоў з вялікіх рэкламных шчытоў, павучаў іх у тэлеперадачах, грымеў і ўгаворваў з газет. А быў жа ж у той час у Венесуэле, дзе заявіў, што спадзяецца ўшанаваць беларусаў сваёй прысутнасцю наступныя дваццаць гадоў, пасля таго часу ўладу перадасць Кольку, пакуль што падлетку. Кажуць, венесуэльскі прэзідэнт запрапанаваў даць голас прысутнаму на сустрэчы Кольку, ды той рашуча адмовіўся. Ці мо прыгнятаў яго цяжар... цяперашняй таткавай прысутнасці?

Ну дык што ў Бабруйску? Аб гэтым напішу наступным разам.

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Актава без гала-канцэрта



Працягваецца пяты выпуск Міжнароднага фестывалю музыкі, мастацтва і фальклору „Падляшская актава культур”. Сёлета на сцэнах Беластока і ўсяго ваяводства ў рамках мерапрыемства выступяць дваццаць восем калектываў з чатырнаццаці краін свету. Каля сямісот выканаўцаў дадуць трыццаць два канцэрты ў дваццаці трох мясцовасцях. З Беларусі можа будзе захапляцца мінскімі „Баламутамі” ды „Шчадрыцай”. Калі паказваецца гэты нумар „Нівы”, абодва ўжо выступілі на пляцоўцы пры беластоцкай Ратушы. Першы паглядзяць яшчэ жыхары Васількава (27 ліпеня) і Заблудава (28 ліпеня), а другі — Нараўкі (28 ліпеня) і Монек (29 ліпеня). Не дойдуць яны нарыклад да Гайнаўкі, дзе арганізатары ў рамках фестывальных выступленняў прадбачылі канцэрт джазавага аркестра «ТГУ-62» з Расіі, Гарадка, дзе адрэкамендуецца грузінскі хлапечы хор „Мдзевары” ці Бельска-Падляшскага, у якім гледачы змогуць пазахапляцца дзіцячым танцавальным ансамблем з Балгарыі і калектывам польскіх лэмкаў.

У час прэс-канферэнцыі, папярэджваючай пятую „Актаву”, падляшскі маршалак Яраслаў Дважандскі (арганізатар імпрэзы, значыць, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку падлягае Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства) ганарыўся: „Гэты фестываль ужо трывала ўпісаўся ў беластоцкую, падляшскую культурную сцэну”.

Зыгмунт Цясельскі, старшыня Міжнароднай мастацкай рады фестывалю, адзначыў:

— Стараемся паставіць знак адзінства паміж культурай высокай і нізкай. Культура, як сказаў прафесар Зыгмунт Бауман, сённяшнім часам — проста тавар. Гэты фестываль — выраз талерантнасці для іншасці.

Сёлета „Актаву” не будзе канчаць гала-канцэрт пад беластоцкай Ратушшу, у якім дасюль выступалі ўсе яго ўдзельнікі. Дырэктар фестывалю і ВААК Анджэй Дырдал у час прэс-канферэнцыі тлумачыў: „Не будзе гала-канцэрта, таму што не хапіла часу”.

Зараз пасля, аднак, гэтую сумніўную, каб у яе паверыць, заяву замяніў на — як мне здаецца — таксама малаверагодную. Аказалася, што тэрыторыя вакол Ратушы, на якой у час фестывалю ставілі гардэробы калектывам, была занятая па дазволу Гарадской управы (горад з’яўляецца суарганізатарам „Актавы”) чарговым піўным агародчыкам, а з прапанаванага „ўзамен” Маршалкоўскай управай кавалка месца пры вуліцы Заменгофа калектывы не маглі б так хутка — як сказаў Анджэй Дырдал — паспець на сцэну. На нішто здаліся намёкі маршалка ў прысутнасці журналістаў: „Можа выкарыстаць на патрэбы фестывалю пляц перад Драмтэатрам?”.

З адказу дырэктара Дырдала вынікала, што можа быць гаворка толькі пра пляц перад Ратушшу, бо м.інш. гледачы маюць тут дадатковыя месцы для сядзення на акаляючых пляц прыступках.

— Звернемся да прэзідэнта горада, каб на час наступнага выпуску „Актавы” так, як у час Божага Цела, навакольныя піўныя агародчыкі зачыніць.

Упссс..! Шыкуецца, значыць, новы канфлікт з агародчыкамі на фоне.

Вяртаючыся да мастацкай часткі сёлетняга фестывалю, варта ўспомніць, што ў гэты раз не выступіць ні адзін „тутэйшы” беларускі калектыў. Анджэй Дырдал:

— Гэта не ёсць чарговы фестываль нацыянальных меншасцей, але для меншасцей і для большасці.

Спаслаўся гэтым выказваннем на іншы матыў, ды — здаецца мне — паказавае яно ягоную фестывальную ўяву, а ў выпадку нашых беларускіх калектываў яно крыху мутнае, хаця б таму, што ёсць у праграме „тутэйшыя” калектывы — літоўскія і старавераў, а таксама выконваючыя цыганскія песні і танцы. А калі гаворка пра народную (фолькавую) формулу фестывалю, поўным неразуменнем у час сёлетняй „Актавы” здаюцца быць выступы, прысвечаныя „каханню ў пілюлі і анекдоце” з удзелам такіх зорак як Эва Бэм ці Аліцыя Маеўская, а таксама вышэйзгаданага расійскага джаз-аркестра.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

## Размова з Агнешкай Карыткоўскай-Мазур, новай дырэктаркай Беластоцкага драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі

# Спазнаю неадкрытыя рэгіёны

**„Ніва”: — *Пытанне знячэўку. Можаце пералічыць тры прозвішчы сучасных беларускіх драматургаў?***

**Агнешка Карыткоўская-Мазур:** — Петрашкевіч, Пражко, Кавалёў, Арахоўскі, Сідарук, Халезін...

***— Дзякую, я прасіў толькі трох...***

— Маім пастаўшчыком тэкстаў здаўна з'яўляецца Агнешка Любаміра Пятроўская (перакладчыца м.інш. „Трох сясцёр” расійскага класіка Антона Чэхава ці культавага „Пакалення джынс” Мікалая Халезіна, стваральніка незалежнага беларускага „Вольнага тэатра” — М. Х.), якая падмацуе ад гэтага сезона новую Мастацкую раду тэатра. Тэксты гэтых драматургаў будуць прэзентавацца ў рамках чытанняў сучасных тэатраў ужо ад лістапада. Планую сустрэчы трох рэжысёраў у рамках аднаго чытання, з якіх кожны з групай акцёраў, на працягу некалькіх дзён, будзе шукаць сцэнічнай мовы для дадзенай драмы. Гэтыя інтэрпрэтацыі будуць ацэньвацца знаўцамі і каменціравацца публікай. Калі гаворка пра беларускую літаратуру, захапіў мяне нядаўна Віктар Сазонаў са сваімі „Суседскімі былямі” і я ахвотна ўбачыла б іх у сцэнічнай адаптацыі. Доўгі час я захаплялася чэшскай літаратурай, на якой, парадаксальна, бо яе да сёння не ставіла, фармавалася мая сцэнічная мова. Тое, што ў ёй фантастычнае і што захапляе таксама і ў тэатры, гэта кантрапункт: забава формай, пераломванне сантыментальных гісторый у сур'ёзны спосаб і наадварот. У Сазонава ёсць таксама штосьці такое. Расказвае ён усе тыя гісторыі людзей са свіннямі на вазах, дастаючы ўсё тое, што ў людзях недарэчнае, смешнае, грубае, ды з нейкай Грабалаўскай пяшчотнасцю. Піша на фільмавай мове, а ўва мне пускае ў рух сцэнічную ўяву. Рэкамендавалі мне таксама і з нецярплівасцю чакаю „Белага каня” Міхала Андрасюка. У прафесіі рэжысёра мяне вельмі цікавіць, каб дастаць пад паверхню слоў, здарэнняў, паняццяў, каб раскласці на простыя множнікі гэтае існаванне светаў побач сябе, што бяруць адзін ад аднаго, дзе гэтыя межы заціраюцца, а дзе яны вострыя. У Беласток прыцягнула мяне ахвота гэтаму прыглядзецца, гэта значыць шматкультурнасць, шматканфесійнасць, што за гэтым скрываецца. Гэта непаадкрываныя рэгіёны. Я ахвотна з імі пазнаёмлюся. Гэтая прастора, у мастацкім сэнсе, мяне прыцягвае і хвалюе.

***— А ці Вы ведаеце, калі ў «Вянгерцы» паставілі ў апошні час драму беларускага аўтара?***

— Ёсць у мяне рэпертуарныя даныя з апошніх дзесяці гадоў і за гэты час такой прапановы не было.

***— Наколькі я ведаю, гэта было ў палове васьмідзесятых гадоў і ставілі тут «Парог» Аляксея Дударава ў рэжысуры Мірыям Александровіч. Як Вы думаеце, чаму ад таго часу ніхто не цікавіўся беларускай літаратурай, у тым ліку драматургіяй, «тамашняй» ці «тутэйшай», а затым — як кажа тут моладзь — гэтым «мульці-кульці»?***

— Гэта моцнае пытанне. Я стаўлю яго сама сабе. Першае, што прыходзіць мне ў галаву, гэта гультайства, таксама ментальнае. Думаю таксама, наколькі няма цікаўнасці дастацца да гэтых крыніц. Я не веру, каб мы ў мастацкім сэнсе не былі дапытлівымі. У апошнія гады рэпертуар гэтага тэатра не выказваў аднак ніякай дапытлівасці. Апрача таго бранне такіх драматургаў на пастаноўкі можа быць палічана парушаннем прынцыпаў паліткарэктнасці, а тэатр жа павінен правакаваць, а не ўцякаць. Я цяпер зглыбляю тэму тутэйшай шматкультурнасці. Хаця я з Падляшша, бо родам я з Ломжы, гэтага падляшскага духу ніхто не мусіць мне спецыяльна тлумачыць. Тут, больш на Усход, у Беластоку шматкультурнасць яшчэ больш глыбокая. Мне залежыць на тым, каб паказаць, што значыць гэтая каштоўнасць, і што з яе можна паказаць таксама ў агульнапольскім абароце. Пётр Тамашук тут быў першапраходцам. Я сама вучылася на ягоным тэатры (супрасльскім «Вершаліне» — М. Х.). Драма апрача таго становіцца штораз больш міждысцыплінарнай. Тэатр гэта не толькі месца, у якім праводзіцца час з 18 да 22 гадзіны. Мне залежыць на тым, каб гэта было таксама месца грамадскага дыялогу, не толькі тэатральнага, але таксама і літаратурнага, мастацтва агулам. Свае спектаклі я таксама стараюся кампанаваць, каб яны былі ў гэтым сэнсе міждысцыплінарнымі. Напрыклад, супрацоўнічаю з мастаком відэа-арту Яцкам Маліноўскім, які па прафесіі не ёсць сцэнічным афармляльнікам, а праектуе для маіх спектакляў архітэктурныя прасторы. Супрацоўнічае ён, дарэчы, ад гадоў з мастацкай галерэяй «Арсенал», ведае гэтае месца. Усе мы карыстаемся ўніверсальнымі знакамі мульці-кульці. Мяне цікавіць, як спрычыніцца да таго, каб гэтую старую прастору перакласці на сучасную мову, зацікавіць ёю маладых людзей. Як дастаць праўду аб універсальных механізмах міжчалавечых адносін. Мне залежыць на тым, каб тэатр увайшоў у спелы дыялог з сучаснасцю.



Агнешка Карыткоўская-Мазур (1977 г. нар.) — рэжысёрка, сцэнарыстка, культуразнаўца і тэатразнаўца, а таксама дактарантка Інстытута мастацтва Польскай акадэміі навук — стала на пасаду дырэктара Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі 1 ліпеня (шляхам конкурсу аб'яўленага Падляшскай маршалкоўскай управай, якой падлягае тэатр). З'яўляецца таксама тэатральнай і музычнай прадзюсеркай ды фельетаністкай. Незалежна ад маладога ўзросту, у яе немалы рэжысёрскі вопыт. Працавала ў такіх знакамітых тэатрах як «Паўшэхны», «Драматычны» і «На Волі» ў Варшаве, «Польскі» ў Познані ці «Багатэля» ў Кракаве ды за мяжой у «Ny Teatret» у Стакгольме і Тэатры оперы і балета ў Новасібірску.

www.wrotapodlasia.pl

***— Я разумею, што ў так успрыманым дыялогу змесціцца «Чарнобыльская малітва» Святланы Алексіевіч, якую намерваецеся ставіць у новым сезоне?***

— Так. Сваю прыгоду з Алексіевіч пачала я з кнігі «У вайны не жаночы твар» і была гэта шакавальнае чытанне. Чым больш цікавая кніга, тым больш задумваюся над тым, як яе паказаць у сцэнічнай форме. Гэта такое прафесійнае скрыўленне. Чым больш цяжка, тым больш балюча, і валачыцца гэта за чалавекам. Так было і з «Вайной...». Алексіевіч уразіла мяне спосабам прыходу да праўцы, без халатнасці ў яе пошуках. Не звядзе яе ілюзорная праўда. У яе стратэгіі пошукаў праўды, у гэтых размовах, ёсць драпежнасць, якою павінен карміцца тэатр. Сказаў Пітэр Брук: «Калі хтосьці гаворыць на сцэне, задумайся над тым, ці не ілжэ». Калі я ўзяла ў рукі «Чарнобыльскую малітву» чатыры месяцы таму, аказалася яна быць такой моцнай, што я не была ў змозе прачытаць яе адразу, поўнасцю. Гэтыя гісторыі былі блізка мяне. Я сама піла раствор Люголя. Кожная чарговая гісторыя клала мяне на лапаткі. І тое, што з-за недаінфармаванасці дзяржаўная машына ў змозе знішчыць столькі людзей. І такімі ахвярамі-спадчыннікамі з'яўляемся мы ўсе. І тое, як абарончыя механізмы так лёгка перасоўваюць свае межы. Якую цывілізацыю смерці і жыцця мы ствараем... Механізмы апісаныя тут у пілюлі вядомыя з антычнага часу. Думаю тут не пра ашарашванне гісторыямі, у якіх хтосьці хацеў памыць блізкую сабе асобу і не мог, бо яе скура адыходзіла кавалкамі або што выкідвалі праз акно непажаданых нованароджаных. Мэта гэтай п'есы — даць голас людзям. Калі гэтых гісторый не выявіць, памруць яны разам з людзьмі. І няважнае, што гэта ўсё адбываецца 200-300 кіламетраў далей. Усе мы — ахвяры тае сістэмы. Гэтая прапанова не будзе лёгкай для гледачоў, але і для мяне самой. Кранула яна мяне да жывога і я хацела б гэтым досведам падзяліцца. Мусім гэта сказаць і гэта якраз адсюль павінен далятаць наш голас. Гэта той час.

***— Нядаўна Вы ўспомнілі аб праекце шматканфесійнасці месца, у якім мы знаходзімся. Што Вы мелі на думцы?***

— Я хацела б стварыць цыклічны праект «Święci-Przeklęci». Я думаю, што можам думаць аб праекце на чатыры гады, бо я на столькі атрымала дырэктарскі кантракт. Гаварыць ён мае пра легенды Падляшша, пагранічча і суседніх краін. Першай такой легендай, якая мяне зацікавіла, была легенда святога Гаўрыіла. Я ўжо адбыла размовы з драматургам, які спецыяльна на патрэбы гэтага праекта будзе пісаць тэкст, Артурам Палыгам, які ў Беларусі рабіў рэпартажы. Спадзяюся на змяшчэнне гэтай легенды ў рэлігійным кантэксце, але і ў чалавечым вымярэнні. Залежыць мне на тым, каб пры спектаклі выкарыстаны быў музычны матэрыял, які збірае Марцін Ліцьвінка, мой калега з часу вучобы на факультэце ведаў пра тэатр Варшаўскай тэатральнай акадэміі. Ёсць у яго аграмадны збор транскрыпцый і арыгіналаў малітваў і спеваў з тэрыторыі Усходняй сцяны, таксама звязаных з Беларуссю. «Święty Gabriel» праўдападобна будзе веснавой, перадапошняй прэм'ерай найбліжэйшага сезона. У рамках цыкла штогод будзе ўзнікаць адзін спектакль, а пры нагодзе — дыскусійныя сустрэчы, майстар-класы.

***— Беластоцкі Драмтэатр фармальна супрацоўнічаў дагэтуль з Драмтэатрам у Гродне і Акадэмічным драмтэатрам у Віцебску. Ці бачыце Вы патрэбу наладжання кантактаў з неафіцыйнымі тэатральнымі групамі з Беларусі?***

— Я вельмі адкрытая на супрацоўніцтва. Збіраю яшчэ інфармацыі на гэтую тэму. Пакуль (7-15 верасня) пасылаем п'есу «Stworzenia sceniczne» ў тэатр у Брэст, пры супрацоўніцтве з Польскім інстытутам у Мінску. Гэты выезд — спадчына па ранейшай дырэкцыі, хаця рашэнне аб выездзе было ўжо маё. Плануем г.зв. цыклічныя азнаямляльныя паездкі ў Беларусь, Літву, паводле календара, які запрапануе спадар дырэктар (Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы — М. Х.). Чакаю прапановы сустрэч. Тым часам пасля сустрэчы з Кшыштафам Чыжэўскім (шэфам Сейненскага цэнтра «Пагранічча» — мастацтваў, культур, народаў — М. Х.) плануем стварыць установу, па ўзоры шматкультурага Вроцлава. Выкарыстоўваючы час моцнай прамоцыі Усходу хочам, каб у рамках гэтай задумы рушыў фестываль «East West Crossing» у супрацоўніцтве з тэатрам, школамі і лабараторыямі творчай працы м.інш. з Грэцыі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Нарвегіі. Намерваемся стварыць мультыкультурную ўстанову, якая ўнутры сябе моцна з сабою супрацоўнічае, а ў склад якое ўвойдуць «Пагранічча», Драмтэатр, Падляшская філармонія і опера, «Вершалін» і галерэя «Арсенал». Мы яшчэ не размаўлялі з Беластоцкім лялечным тэатрам, але маем надзею, што далучыцца ён да гэтай групы. Энергія людзей з гэтых установаў і скрыжаванне задум — ужо сіла сама па сабе, а да гэтага спалучэнне іх кантактаў і праграм, якія маюць магчымасць здабыць супольную датацыю для рэгіёна — вартае ўвагі. Тут у коле зацікаўлення ёсць Беларусь і Літва, таксама на лакальным узроўні. Я бачу адкрытасць з таго боку. Мабыць, на культурнай платформе мы ў змозе зрабіць прапушчаныя дыпламатычныя ўрокі з Літвой і Беларуссю.

***— Чаму інаўгурацыя новага сезона адбудзецца ў час фестывалю «Inny Wymiar», арганізаванага Беластоцкім асяродкам культуры?***

— У час мерапрыемства «Inny Wymiar» будзе прадстаўляцца спектакль на падставе прозы Аксаны Забужка, а пры нагодзе прэм'ернае прадстаўленне п'есы Святланы Алексіевіч, нават калі наш спектакль не будзе мець яшчэ канчатковай формы. Мне залежыць на тым, каб інаўгурацыя тэатра пад маім кіраўніцтвам адбылася ў супрацоўніцтве з іншай установай. Я лічу, што фестываль Беластоцкага асяродка культуры гэта вельмі каштоўная ініцыятыва. Я хацела б даць выразны сігнал, што мы — адкрытыя на супрацоўніцтва. Мусім у гэтым тэатры вярнуцца да класікі з яе моцнай, сучаснай спасылкай. З аднаго боку — абнавіць класічныя творы, што ад гадоў не гасцявалі ў нас, з другога — паказаць, што тэатральная мова можа быць дыялогам. Мы хацелі б паказаць, што бакенбарды і контушы гэта не адзіны спосаб на тэатр. Калі ў тэатры будуць гісторыі расказаныя сумленна і сапраўдна, дык веру, што навінка не напалохае.

***— Дзякую за размову.***

***Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ***

## Бочка песень, музыкі і танцаў

У Нараўцы 14 ліпеня адбылося ўжо традыцыйнае святкаванне купальскай ночы. Варта прыпомніць, што ў палове ліпеня дзень пачынае меншаць і прырода павольна паварочвае да восені.

У старажытныя часы купальскае свята суправаджалася рознымі абрадамі і песнямі, якімі людзі імкнуліся дапамагчы богу цяпла перамагчы бога холаду. Раскладалі вогнішчы, скакалі праз агонь, кідалі ў рэчку вяночкі. Адны другім расказвалі, што ў гэтую ноч расцвітае кветка шчасця, што можна знайсці скарб і даведацца пра свой лёс. У наш час зноў пашыраюцца ірацыянальныя погляды.

Гмінная ўлада і БГКТ арганізуюць купальскія ночы.

У Нараўку прыехала мноства людзей, каб паглядзець выступленне мясцовых аматарскіх калектываў, а асабліва гасцей з Беларусі.

Забаўлялі мясцовую публіку маладыя голасныя музыкі з Гайнаўкі і Міхалова. У народным стылі спявалі „Нараўчанкі", „Цаглінкі" і гродзенская „Росніца", але сапраўдным „цвіком" праграмы была „Купалінка" з Мінска. Гэты заслужаны калектыў фалькорнай музыкі даў цудоўны гадзінны канцэрт, які надоўга застанецца ў сэрцах гледачоў. „Купалінка" прывезла ў Нараўку бочку беларускіх песень, музыкі і танцаў у выдатным выкананні.

Прафесійныя артысты як натхнёныя цэлую гадзіну, без стомы, гралі, танцавалі і спявалі і ні разу не памыліліся. Гармонік, скрыпка і галасы ў „Купалінкі" такія меладыйныя, звонкія, што ў найбольш раўнадушных зашчымела сэрца.

Праграма ансамбля — гэта даскапалая музычныя ілюстрацыя да вершаванай аповесці Дуніна-Марцінкевіча. У XIX стагоддзі аўтар пісаў як людзі з цэлага сяла налажылі і падпалілі касцёр, прынеслі розныя стравы, ласункі, як елі і пілі, як жартавалі і танцавалі. Шкада, што ніхто са сцэны не чытаў для публікі гэтага твора.

Ансамбль „Купалінка" ў мастацкай форме паказвае гэтае свята, радасць, шум і сялянскую сумятню. Нараўчанская публіка не шкадавала апладысментаў артыстам „Купалінкі" і ніхто не шкадаваў, што прыехаў на канцэрт.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Трохі тэалогіі

З зацікаўленнем прачытаў я тэкст Аляксея Мароза пра Крыначку („Ніва" № 26 ад 24.06.2012 г.) і пашкадаваў, што не паехаў я ў тое святое месца ў дзень пабыўкі ў ім епіскапа Георгія: столькі цікавага даведаўся б я аб еўракрызісе ў Грэцыі! А можа нават аб перспектывах далучэння Польшчы да зоны еўра ўладыка нешта сказаў бы?.. Саджуся затым у машыну і імчуся ў Яблачын: там пэўна будзе не адзін іерарх, значыць, трэба ўважліва слухаць. Мне вельмі хацелася б з аўтарытэтных вуснаў даведацца пра перспектывы долара і курс золата на сусветных біржах — у тэлебачанні ўсяляк аб гэтым гавораць і не ведаю як мне быць. А можа з Вроцлава прыедзе ўладыка Іеремія, то пры нагодзе і пра Бога трохі пачую...

Няма нічога лепшага як адухоўленыя архіпастыры і іх клопат аб... Менавіта аб кім? Аб нас?

**М. Ц.**



Фота Мар'юша МАЗЮСКАГА

**Іаанна ЧАБАН**

# З мазавецкай перспектывы

З 2 па 4 ліпеня 2012 года ў Крынках праходзіла невялікая, але з многіх пунктаў гледжання важная, міжрэгіянальная сустрэча прадстаўнікоў дзвюх няўрадавых арганізацый. Ініцыятарам і гаспадаром сустрэчы было мясцовае Аб'яднанне ў карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных „Драбіна", якое ўпершыню прымала прадстаўнікоў блізнячай па характары дзейнасці арганізацыі пад назвай Аб'яднанне „ЭМКА Моладзь для развіцця" з падваршаўскага Легіянова. Трохдзённае спатканне няўрадаўцаў мела інтэграцыйны і пазнавальны характар. Гасцям была падрыхтавана цікавая і багатая праграма, у якую ўвайшла, між іншым, сустрэча з мясцовай краязнаўцай, а заадно працаўніцай крынскай „Драбіны" Цалінай Бах-Шчавінскай. Сваю прыватную калекцыю птушыных рэзьб паказаў ім крынскі мастак і назіральнік прыроды Ян Чабан. Завіталі яны таксама да крушынянскіх татараў, дзе, між іншым, пасмакавалі арыгінальных страў. Адным з пунктаў праграмы было наведанне цэркваў у Вершаліне і Востраве. Не забракла і турыстычных атракцыёнаў, прапанаваных крынскім надлясніцтвам. Вечары былі адведзены для цыркавых майстар-класаў і спартыўных спаборніцтваў, у якія была ўключана таксама мясцовая моладзь.

Госці з Легіянова — у большасці прафесійныя педагогі — згадзіліся пазнаёміць чытачоў „Нівы" з гісторыяй і галоўнымі напрамкамі дзейнасці іх арганізацыі. Старшынёй і заснавальнікам аб'яднання „Эмка" з'яўляецца Ізабела Каўнацкая. Дзесяць гадоў таму яна пазнаёмілася са сваім цяперашнім мужам, як сама кажа, „у час нашых першых сустрэч больш чым рамантыкай мы займаліся размовамі пра жыццё. Нам захацелася штосьці зрабіць іншым людзям, перш за ўсё моладзі, якая апынулася ў цяжкіх жыццёвых абставінах. Так завязалася нашае аб'яднанне „Эмка". Мы любім моладзь і хочам ёй дапамагаць развівацца. Менавіта моладзі прысвячаем нашыя, дастаткова папулярныя, харытатыўныя балі, якіх у гэтым годзе адбылося ўжо дзевяць. Грошы, заробленыя на гэтых мерапрыемствах, мы прызначаем на стыпендыяльны фонд для здольнай моладзі з бедных сем'яў. Размяркоўваючы грошы, мы звяртаем увагу не толькі на вынікі ў навуцы, але і на ангажаванасць патэнцыяльных стыпендыятаў у сацыяльную актыўнасць. Ад шасці гадоў супрацоўнічаем з Фондам імя Баторыя з Варшавы, які падтрымлівае нас фінансава, памнажаючы ўдвая кожную заробленую намі залатоўку.

Мы арганізавалі спартыўныя спаборніцтвы за кубак „Эмкі", ладзілі байдарачныя паходы па Нарве і калектыўныя гульні на пляжы. Задума на такога тыпу ініцыятыву зрадзілася ў час нашых аб'ездаў па навакольных, аўтобусных прыпынках. Убачыўшы праседжваючую там моладзь з півам у руцэ, мы рашылі выкарыстаць іх патэнцыял, жыццёвую энергію менавіта ў спорце. Потым мы пачалі шукаць іншых ідэй і спосабаў заахвочвання моладзі да супрацоўніцтва з намі. Нашай новай тэндэнцыяй з'яўляецца збераганне і папулярызацыя гісторыі бліжэйшага рэгіёна. Ёсць у нас некалькі старых руін, якія мы маглі б добраўпарадкаваць. На жаль, Польская акадэмія навук не хоча нам іх вярнуць, таму абмяжоўваемся да рэгулярных акцый прыбірання згаданых месц і арганізацыі там канцэртаў класічнай музыкі. На Мазоўшы ведаюць нас перш за ўсё як лідараў валанцёрскіх, працоўных лагераў званых „уорк-кампамі". Да ўдзелу ў гэтых акцыях запрашаем людзей з найдалейшых куткоў свету. Былі ў нас, між іншым, канадцы, японцы, карэйцы, немцы і чэхі. Яны прыязджаюць на свой кошт, на два, часам тры, летнія заезды. Супольна з нашымі „эмкавічанамі" займаюцца парадкаваннем птушынага рэзервата „Лэнгі Велішэўскія" і ўзбярэжжа Нарвы, вельмі засмечаных пасля кожных, даўжэйшых выхадных. Такія лагеры гэта не толькі работа, але таксама новыя знаёмствы, сустрэчы з другой культурай і шліфаванне ведання англійскай мовы. Вельмі цікавай з'яўляецца заўсёды падрыхтоўка страў. Удзельнікі „ўорк-кампаў" самі вараць свае любімыя, нацыянальныя стравы, супольна іх каштуюць і абменьваюцца рэцэптамі. Каб бліжэй пазнаёміцца з традыцыямі і культурай нашых гасцей, мы рыхтуем таксама мастацкія вечарыны з мікрафонам для ўсіх.

Паралельна з „уорк-кампам" ладзяцца вядомыя на Мазоўшы шантавыя канцэрты, у арганізацыі якіх мы таксама ўдзельнічаем. Нашы „ўорк-кампавічы" часта вяртаюцца да нас, свае новыя сяброўствы і сувязі падтрымліваюць на спецыяльным, валанцёрскім, электронным форуме.

Нашае аб'яднанне сістэматычна заахвочвае навакольную моладзь да знаёмства з культурнай спадчынай рэгіёна і біяграфіямі вядомых землякоў. Штогод праводзім гістарычныя і тэматычныя конкурсы для школьнікаў, апошні —



Фота Мар'юша МАЗЮСКАГА

„У лёдах Арктыкі" — мы прысвяцілі творчасці вядомых падарожнікаў, нашых землякоў Цанткевічаў, якраз у гэтым годзе Легіёнаўскі павет ушаноўвае іх памяць.

Ужо тройчы мы з'яўляемся сугаспадарамі гміннага конкурсу „Наш талент". Праводзім таксама гульні ў тэатр, фінансаваныя праектам „Раўнäць шанцы". Усім займаемся самі, ніхто нам не дапамагае. У нас няма таксама сталай сядзібы. Дзякуючы паездцы ў Крынкі, мы маглі пазнаёміцца, бо хаця дзейнічаем у адной арганізацыі, у нас не было нагоды з усімі сустрэцца. Кантактуемся ў асноўным на форуме на фейсбуку".

Крынская, міжрэгіянальная сустрэча стала таксама стымулам для аб'яднання сіл дзвюх брацкіх арганізацый у адным праекце. Ідэі супольнай ініцыятывы абмяркоўваліся ў час апошняй, завяршальнай дыскусіі. Старшыня крынскай „Драбіны" Анна Галка прапанавала звярнуць увагу на гістарычна-культурныя каштоўнасці абодвух рэгіёнаў. „Мы вельмі бедныя ў гэтым плане, — адказвае спадарыня Ізабела з „Эмкі". — У нас вельмі цяжка знайсці рукадзельнікаў ці разьбяроў. Мы праводзілі экспедыцыі на мясцовасці, прысвечаныя пошукам старых казак, легенд і песень. На жаль, нічога арыгінальнага не знайшлі. У нас не скаштуеш нават цікавых, рэгіянальных страў. У гэты праект мы можам унесці ваенную гісторыю і мілітарыі з часоў Першай і Другой сусветных войнаў. Напэўна важнай будзе тэма тайнага навучання. Мы ўжо папалі на след настаўніцы, спадарыні Тамчынскай, якая вяла такую дзейнасць у час апошняй вайны. Калі яна ведала, што ў хату ўваходзяць акупанты, то ўсе дыдактычныя матэрыялы хавала ў вялікія бітоны, якія закопвала ў зямлю. Усе паперы захаваліся да нашых часоў у добрым стане. На іх старраннай каліграфіяй выведзены, між іншым, спісі вучняў і іхнія ацэнкі".

Апошняя дыскусія стала таксама месцам падсумавання супольна праведзенага часу.

Мар'юш — валанцёр з „Эмкі", фанат прыроды, вельмі пасябраваў з мужам спадарыні Ані — Паўлам Галкам, з якім падглядаў дзікую прыроду падкрынскіх лясоў. Павел абяцаў паказаць яму падворліка малога і слова стрымаў. „Я быў негатовы на такі паход, пайшоў у красоўках, якія буду пэўна з два тыдні чысціць. Усё ж такі варта было. Гэтая частка нашай краіны заўсёды асацыявалася мне з гасціннасцю. Яшчэ раз пацвердзілася, што жывуць тут людзі, якія ўмеюць перадаць другім сваю страсць".

„Мы вельмі бедныя ў параўнанні з вамі, — кажа Анна Арлоўская. — Неяк несправядліва нас Бог надзяліў. Нашае бліжэйшае наваколле пустое, а вы, выйшаўшы з хаты, можаце раскрываць для сябе такое багацце. Вы за гэтых пару дзён спрабавалі паказаць нам свой рэгіён, але мы выязджаем з недахопам уражанняў. Спадзяемся вярнуцца тут неўзабаве і працягваць знаёмства з гэтым цудоўным кутком свету. Мы абсалютна захоплены мясцовымі людзьмі, гэтым, што тут ёсць і будзе, бо ведаю, што пландуеце далей развіваць і падтрымваць вашыя культурныя каштоўнасці".

Ізабела Каўнацкая выявіла, што ў Крынкі завітала ўжо пятнаццаць гадоў таму і вельмі ў іх закахалася. „Вяртаючыся сюды, я крыху перажывала ці мае пачуцці не памяняюцца. Але я не расчаравалася. Хаця цывілізацыя хутка мяняе нашу краіну, вы надалей застаецеся сабою. Дбаеце пра цудоўныя драўляныя хаткі, працягваеце захапляць гасціннасцю і пазітыўным стаўленнем да другога чалавека. Жадаю вам поспехаў у далейшай падтрымцы сваёй чароўнай тоеснасці".

■ Адам БОБРЫК

# Беларусы вывучаюць польскую мову ў Седльцах


Фота Эміліі ДАМАРАЦКАЙ

На тры тыдні ў Седльцы прыехала 37 студэнтаў з Усходу, у тым ліку 15 з Беларусі. Яны займаюцца ў XV Летняй школе польскай мовы і культуры, якая дзейнічае ў Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце. Цікавым падаецца той факт, што сярод іх ёсць не толькі студэнты філалагічных факультэтаў, але і фізікі, праграмісты, юрысты і эканамісты. Як адзначыла загадчыца Летняй школы ў Седльцах доктар Беата Валенцюк-Дэйнека, чакаюць іх цікавыя экскурсіі, новыя веды пра Польшчу, але перш за ўсё шмат навукі польскай мове. Пасля заняткаў і кароткага адпачынку ў студэнцкім клубе адбываюцца сустрэчы студэнтаў, у час якіх знаёмяцца яны з польскай культурай праз песні, паэтычныя вечары і гульні.

„Я хачу працаваць у якасці праграміста, — сказаў „Ніве" Глеб Папшаў. — Сёння патрэбны спецыялісты з веданнем замежных моў. Для мяне замежнай з'яўляецца польская, якая асабліва папулярная ў прыгранічных гарадах. Я вывучаў гэтую мову спачатку адзін, потым пайшоў на курсы ў Брэсцкім універсітэце. Летняя школа гэта шанц для мяне, каб атрымаць шмат новых навыкаў, і, перш за ўсё, навучыцца правільнаму вымаўленню. Я ўпэўнены, што змагу выкарыстоўваць яе ў будучай прафесійнай дзейнасці", — падкрэсліў Папшаў. У той час Ніка Неўдах прызналася, што яна набыла тут шмат новых ведаў — не толькі моўных, але і практычных. „Мы набылі шмат сяброў. Сюрпрызам для нас стала тое, што Седльцы трымаюць партнёрскія сувязі з Ваўкавыскам у Беларусі, а ў гарадской бібліятэцы можна чытаць ваш штотыднёвік", — сказала яна „Ніве". „Мы сустрэлі ў горадзе шмат беларускіх слядоў. Гэта вельмі прыемнае месца", — дадала Вікторыя Занко.

Новаабраная рэктар Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта прафесар Тамара Захарук з задавальненнем ацаніла дасюлешнія дасягненні школы. Звярнула яна асаблівую ўвагу на пастаянны ўдзел у дзейнасці Летняй школы студэнтаў з Беларусі. „У гэтым годзе ўсе прыехалі да нас з Брэста. Мы блізкія да мяжы. Цалкам натуральна, што мы надаем вялікае значэнне супрацоўніцтву з беларускімі навуковымі коламі. Гэта ўсім прыносіць карысць, а шляхам выхавання моладзі будуем будучыню. Толькі ў гэтым годзе дакументы для паступлення ў наш універсітэт падало 17 беларускіх грамадзян. Многія ўдзельнікі Летняй школы таксама пасля хадайнічаюць аб паступленні ў наш універсітэт. Гэта добра сведчыць аб узроўні адукацыі і атмасферы ў нас", — падкрэсліла Тамара Захарук.

# Весткі з Нараўчанскай гміны

Сёлета вясной на аўтобусных прыпынках у Нараўчанскай гміне аддалі ў карыстанне новыя прыгожыя драўляныя прыстрэшкі ў Альхоўцы, Новай Луцэ, Старым Ляўкове і ў Свінароях.

— А зараз будзем ставіць іх у Гарадзіску, Міхнаўцы, Тарнопалі і ў Семяноўцы, — кажа войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. — Выконваем іх у Семяноўцы. Новыя прыстрэшкі будуць на прыпынках аўтобусаў ПКС і прыватнага транспарту да восені гэтага года.

* * *

Да конкурсу на найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу ў Нараўчанскай гміне прыступіла адзінаццаць гаспадароў з Альхоўкі, Масева, Міклашэва, Новага Ляўкова, Плянты, Семяноўкі і Скупава. У іх ліку жыхарка Новага Ляўкова, якая ў конкурсе ўдзельнічае ўпершыню; прыняць удзел заахвоціў яе солтыс. А наогул найчасцей удзельнічаюць у спаборніцтве перш-наперш жыхары Альхоўкі. **(яц)**



*Мікалай ЛУК'ЯНЮК*

## Быць багатым

*Калі хоч багатым быці,*
*Трэба суполку залажыці,*
*Ці то яўну, ці неяўну,*
*Абы была яна слаўна.*
*Троху грошай сваіх даці,*
*А пасля пазыку ўзяці,*
*На турыстах зарабіці,*
*Тады будзе ляпей жыці.*
*Жонцы дом, а дзецям дачы*
*Хутчэй трэба будаваці*
*Каб ніхто не даказаў,*
*Дзе з суполкі грош прапаў.*
*Ды развод з жонкай узяці;*
*Будуць тады ўсе казаці:*
*Вось як мужа ашукала,*
*Дом з дачай пабудавала!*
*Муж турыстаў афармляе,*
*У цёплы край іх адпраўляе.*
*Там, над морам ці ў пустыні,*
*Пакалюжацца як свінні.*
*А я ў суд заяву дам,*
*Што банкрутам ужо стаў:*
*Няма грошай, мае мілы,*
*Лёс такі мяне пакінуў.*
*Маршалак ці ваявода*
*У руках маюць выгоду*
*Ад дзяржавы грошы браці*
*Каб турыстаў пасцягаці.*
*Бізнесмен тады смяецца,*
*Што ўсё яму ўдаецца:*
*Мае дом і мае дачы,*
*Жыць не будзе ўжо сабача.*

*Віктар БУРА*

## Мае пчолкі

*Ану, ляціце вы,*
*Пчолкі, у палёт,*
*Поле наведайце,*
*Луг і агарод,*
*Кветкі лясныя*
*І краскі балот,*
*Збярыце мёд.*
*Ану, ляціце вы,*
*Пчолкі хутчэй,*
*Трэба мядок нам*
*Для нашых дзяцей.*
*Трэба мядок*
*Для радзіны, гасцей,*
*Каб у нас людзі*
*Бывалі часцей.*
*Трэба мядок*
*І для самых старых,*
*А яшчэ болей*
*Для ўсіх маладых.*
*Ану, ляціце вы,*
*Пчолкі, у палёт,*
*Хай напаўняюцца*
*Рамачкі сот.*
*Хай напаўняюцца*
*Рамачкі сот,*
*Каб гаварылі*
*Усе людзі ўвесь год:*
*„Ах жа і пчолкі,*
*Ах пчалавод,*
*Дзе яны вынайшлі*
*Гэтакі мёд".*

## Карэспандэнт у дарозе

*Мой аўтобус, як птушка, лёгка*
*Імчыцца па асфальтавай шашы.*
*Хоць у „Ніву" яшчэ далёка,*
*Але прыемна на душы.*
*Усмешка свеціцца на твары,*
*Сэрца ад радасці расце.*
*Вязу з сабой матэрыялы,*
*Блакнот ад фактаў патаўсцеў.*
*Я накапляў жывыя факты*
*І толькі аднаго жадаў:*
*Каб сам народ, а не рэдактар*
*Мне пахвалу скупую даў.*

## Нявырашана праблема

У мінулым годзе пенсіянер з Дабрывады Васіль Маркевіч прад'явіў уладам горада Гайнаўкі праблему аб ускладненнях у гарадскім транспарце. Аб гэтым пісала „Ніва" ў 46 нумары ад 13 лістапада 2011 года ў публікацыі „Хто паклапоціцца?".

Праблема зводзілася да таго, што аўтобусы лініі № 2 (з-пад шпіталя) канчаюць рэйс пры віядуку, а аўтобусы ПКС даязджаюць адно да кругавой развязкі і не заязджаюць на вакзал. Чыгуначную станцыю выкінулі проста са спіску прыпынкаў. Гэта ўскладняе жыццё прыстарэлым і хваравітым пасажырам, якія вымушаны дабірацца са шпіталя дамоў цягнікамі, або наведваюць хворых у шпіталі. Каб зайсці з прыпынку гарадскога транспарту на станцыю, трэба адолець трох'ярусны віядук, а з ПКС — пратэпаць пешшу амаль кіламетр дарогі. У згаданай справе размаўляў я з бурмістрам Ежы Сіракам. Суразмоўца тлумачыўся абмежаваннем фінансавых сродкаў, хоць пацешыў, што радныя справу разважаць. Ад нашай размовы міне зараз год, а праблема застаецца нявырашанай. На думку Васіля Маркевіча, хапіла б скамунікаваць гарадскія аўтобусы з прыбываючымі цягнікамі з Чаромхі зранку, і ад'язджаючымі пасля абеду. Усяго чатыры курсы. Няўжо была б гэта вялікая страта для гарадскога бюджэту? Разважце затым паважаныя ўлады Гайнаўкі справу па-чалавечы. Усё ж такі тычыцца яна людзей хваравітых, прыстарэлых ды з абмежаванымі магчымасцямі. Варта аб тым памятаць! **(ус)**

## Мой клопат пра „Ніву"

У пачатку ліпеня г.г. Нараўчанская ГС спыніла продаж газет і часопісаў, у тым ліку і „Нівы", у сваіх крамах, між іншым, у Старым Ляўкове і Плянце. 13 ліпеня г.г. паехаў я ў Нараўку і заходзіў у крамы ГС. Тут газеты будуць у продажы, але „Нівы" не мелі. Пайшоў на пошту. Толькі два экземпляры. Мы (я і карэспандэнт „Нівы" Мікалай Варанецкі з Альхоўкі) іх купілі. Я маю падпіску на „Ніву". Наш родны тыднёвік куплю суседзям.

На пошце ў Нараўцы папрасіў я спадарыню начальнік, каб паінфармавала мяне, хто зараз падпісваецца на „Ніву". Яна мне катэгарычна ў гэтым адмовіла і дадала: „A może ktoś sobie tego nie życzy". Вось табе і на! А я то што, я гэта зычу і хацеў бы, каб хтосьці напісаў. Я ганаруся нашым адзіным беларускім штотыднёвікам у Польшчы. Я ганаруся, што такую газету маем і яна ёсць газетай беларусаў у Польшчы. Я звязаў з ёю свой лёс больш за паўвеку. Для мяне яна важная і найдаражэйшая. А такіх як я ёсць шмат.

Калі няма „Нівы" ў бліжэйшых кіёсках (іх у Нараўчанскай гміне таксама мала) і ад нядаўна ў вышэйзгаданых крамах, тады што: прыйдзецца ехаць у Гайнаўку або Беласток? Гэтак быць не павінна.

Жыхароў Ляўкова і ваколіцы запрашаю да сябе, у хату солтыса. Я буду „Ніву" распаўсюджваць. Так як рабіў дагэтуль.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Патрабавальныя бацькі

Людміла і Барыс Казлоўскія прымалі ўдзел ў тэлепраграме „Патрабавальныя бацькі" (Surowi rodzice). Рэдакцыя „Паплі" рашыла высветліць кулуары гэтага здарэння.

Тыдзень да падзеі ў Бора-Здруй у Ляўкова прыехалі людзі з тэлебачання і рэжысёр пачаў дамаўляцца з гаспадарамі накont дэталяў. Яны хацелі ведаць, якія дадатковыя заняткі будуць выконваць героі тэлеперадачы. Раней ужо былі напісаны сцэнарый, для г.зв. „цяжкой моладзі", і яго трэба было трымацца. Гаспадары мелі магчымасць увесці свае прапановы...

— Праграма праграмай, а жыццё жыццём, — кажа спадар Барыс. — Нам трэба было неяк дагаварыцца. Спачатку было цяжка, нашыя падапечныя ўсё ігнаравалі. Не было да іх прыступу. Нармальная размова пачалася толькі на другі дзень.

— Многія з нас, калі бачаць сцэну з аўсяным кісялём, смяюцца, таму што кісель для нас вельмі смачны. А яны елі яго як пакаранне. Інакш было б, калі б той кісель прапанавалі ім з'есці ў якасці ўзнагароды, — дадае Людміла.

Пасля тыдня запісаў на камеру ўсе раз'ехаліся па сваіх дамах.

— Мы напісалі нашым падапечным э-мейл, але яны нам не адпісалі, — спадар Бора сумняваецца ў тым, што гэты фільм памяняў характар іх выхаванцаў. Такога не зробіш за тыдзень!

Нягледзячы на ўсё, Казлоўскія задаволеныя, што мелі магчымасць працаваць з г.зв. „цяжкой моладдзю". — Будзем пра іх думаць і жадаць каб яны знайшлі сваё месца ў жыцці, — кажуць на развітанне.

**Паўліна Ваўранюк, *„Папля"*,**
*II клас Гімназіі ў Нарве.*
*(Інфармацыя ўзнагароджаная „Зоркай")*

# Вершы Віктара Шведа

## Адмоўся ад чытання

Я прачытаў так многа злога
На тэму алкаголю.
— Дык ты сыйдзі з тае дарогі,
Раіць калега Коля.

— Ад піцця мне адрачыся? —
Запытаўся Ваня.
— Не, дык часам падхмяліся,
Адмоўся ад чытання.

## Задума настаўніка

— Кантроль быць павінен
Навучальнай акругі.
Дзеці праз гадзіну —
Як верныя слугі.

— Пытаю цікава,
Рукі ўсе падняты.
Адказы — рук правых,
Левыя — немаўляты.

# Чаму „Папля"?

Чаму „Папля"?




Многія з вас, гледзячы на газету, падумаюць, што пішам пра плёткі. І ўсе вы памыляецеся. Гэты загаловак узяўся ад першых літар імён журналістаў нашай газеты: Паўліны, Арыядны, Пятра, Лукаша, Янкі. У нашай газеце прачытаеце пра ўсе цікавіны ў Нараўчанскай гміне, пазнаёміцеся з важнымі людзьмі, падкажам што есці, каб быць здаровым і прыгожым. Знойдзеце тут найлепшы гараскоп, парады спадара Боры, жарты, рэбусы, крыжаванкі. Для фанатаў спорту прапануем комікс пра Еўра-2012 і вывучэнне песні „Купалінка". Думаю, што кожны, хто возьме ў рукі „Папля", не будзе сумаваць і прачытае яе ад дошкі да дошкі!

**Паўліна Ваўранюк**
***галоўны рэдактар „Паплі",***
*II клас Гімназіі ў Нарве*



# Мой татка

Мой бацька, Юрка Салінскі, гэта цудоўны чалавек. Мы жывем у вёсцы Чаромсе.

Пасля работы тата займаецца пажарнай справай. Ён — добраахвотнік у пажарнай камандзе. Калі прыйдзе эсэмэска, бацька вельмі хутка, нават уночы, едзе тушыць пажар. Мой бацька адказны чалавек, памагае не толькі пры тушэнні пажараў, але таксама пры аўтамабільных выпадках. Ведаю, што памагае таксама прыбіраць дрэвы, якія зваліў гром.

Апрача гэтага татка — герой і ў хаце, бо ўмее ўсё наладзіць. Я вельмі люблю праводзіць свабодны час з бацькам, хаця мае яго нямнога. Навучыў ён мяне гуляць у футбол і ездзіць на веласіпедзе, забіраў на экскурсіі. Апошнім разам мы наведалі Белавежскую пушчу.

Я вельмі кахаю бацьку. Ён з'яўляецца маім суперменам.

**Кася Салінская, 5 клас**

# Мы пішам у асноўным пра людзей

*З **Дыянай Нахіла,** рэдактар штомесячніка „Biznes.meble.pl”, спецыялісткай па мастацкім дызайне, перакладчыцай з беларускай мовы на польскую гутарыць рэдакцыя „Нашай Суполкі”:*

***НС: — Як пачалося Вашае зацікаўленне дызайнам?***

**ДН:** — Калі я пачала цікавіцца дызайнам, я не ведала яшчэ што гэта такое дызайн. З дзіцячых гадоў я любіла прыгожыя рэчы. Многа часу я праводзіла ў доме сваіх дзядоў. Часта я заставалася сама ў хаце і прыдумвала сабе занядкі. А мая бабуля шыла вопратку. Я вельмі любіла залазіць на гарышча і ў засакрэчанасці ад бабулі збірала абрэзкі матэрыялаў. Шыла з іх сукенкі для лялек, хоць тады не было ў мяне мастацкага ўпадабання. Слова „дызайн” я пачула, калі была ўжо дарослай жанчынай.



Фота Ганны Кандрацюк

***НС: — Колькі гадоў Вы ўжо займаецеся дызайнам?***

**ДН:** — Ужо амаль 12 гадоў. Найбольш люблю праектаваць.

***НС: — Якую школу трэба закончыць, каб стаць дызайнерам?***

**ДН:** — Найлепш закончыць Інстытут прыкладнога мастацтва. У Польшчы ўжо працуюць такія ўстановы ў Варшаве і Кракаве. Там можна вучыцца не толькі праектаванню мэблі але і вопраткі ды многа іншых рэчаў. Хоць з гэтым бывае па-рознаму; я, напрыклад, гуманіст па адукацыі.

***НС: — Як працуецца ў такой галіновай газеце, дзе трэба шукаць тэмы?***

**ДН:** — Мы пішам не толькі пра мэблю, але ў асноўным пра людзей. Бо нават у найбольш галіновым часопісе чытач шукае артыкулаў пра людзей. Асновай у нас з'яўляецца рэпартаж, інтэрв'ю, фельетон, словам — усе класічныя жанры. Скажу яшчэ, што тэмаў не трэба шукаць, яны самі прыходзяць. Сёння, каб займець поспех, важныя думкі, ідэі. І атмасфера на працы. У нашай рэдакцыі працуе толькі пяць чалавек. Мы ўсе сябруем, давяраем сабе, таму ўсім хочацца працаваць. Наш штомесячнік „Biznes.meble.pl” лічаць найлепшым у сваёй галіне ў Польшчы. Гэта не рэклама, гэта факт.

***НС: — Які дызайн Вашых мараў?***

**ДН:** — Люблю праекты з элементамі фальклору, напрыклад, такія, якія я сёння вам паказала: New Folk — meble Voks, AZE biznes design.

***НС: — А якога дызайну Вы не хацелі б мець у сваёй хаце?***

**ДН:** — Не люблю рэчаў перакамбінаваных, або такіх, якія падкрэсліваюць багацце гаспадара.

***НС: — Адкуль Вашы кантакты з падляшскімі беларусамі і „Зоркай”?***

**ДН:** — Гэта доўгая, хоць простая гісторыя. Я нарадзілася ў горадзе Белая-Падляшская, але мае бацькі з вёскі, дзе гаварылі яшчэ па-свойму. Маё пакаленне было адцятае ад этнічных каранёў, мовы. Калі я прыехала вучыцца ў Беласток, тут пабачыла беларусаў, якія адкрыта гаварылі пра сваю адметнасць, культуру. Думаю, што я падсвядома шукала з імі кантакту. А падляшскіх беларусаў я пазнала дзякуючы Ганне Кандрацюк і Міры Лукшы, з якімі мы сустракаліся ў рэдакцыі мастацка-літаратурнага часопіса „Карткі”. У вывучэнні беларускай мовы выдатна дапамагла мне „Ніва”, якой з'яўляюся верны чытачом.

***НС: — Дзякуем за размову.***

**ДН:** — Я таксама дзякую. Хачу сказаць, што я вельмі ўзрушана гэтай сустрэчай. Ведаеце, я першы раз у жыцці бачу як дзеці размаўляюць па-беларуску, спяваюць песні і яшчэ пішуць артыкулы...



Праект вокладкі: Маргарыта Дмітрук

Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## А наму ведаць?

Захапіў мяне яго профіль на самым папулярным сацыяльным партале. Вельмі далікатны, элегантны стыль, нечаканы здымак героя на фоне чорна-белых успамінаў. Магла б я запытаць чый гэта профіль, аб'явіць конкурс і чакаць адказаў. Магчыма, што не дачакалася б ніводнага, бо гэта не Лявон Вольскі, не „Ляпіс Трубяцкой”, нават не „Акутэ”. Гэта немалады ўжо выканаўца, які з усім дзіцячай бесклапотнасцю распавядае пра сапраўды сур'ёзныя справы. Таму не будзе конкурсу, толькі самае кароткае інтэрв'ю, якое ў апошнім часе давялося мне ўзяць.

— Прывітанне, Алесь! Дзесьці я пачула, што працуеш над новым альбомам. Я раз у тыдзень пішу дзецям у беластоцкай „Ніве” пра музыку і падумала, што можа раскажу ім пра Тваю бліжэйшую працу. Хаця б, калі можам спадзявацца на новы альбом, ці гэта будуць Твае аўтарскія тэксты? Ці музыка пойдзе ў нейкім новым напрамку, ці характэрная басанова будзе асноўным матывам? А пры нагодзе шлю найлепшыя пажаданні з Беластока!

— Прывітанне! Я і сам не ведаю як спраўлюся. Але там і мае тэксты і не мае, і пераклады. І рытмічна разнастайныя. А басанова практычна адсутнічае. Штось больш канкрэтнага я і сам думаю дзесь праз месяц-другі даведацца.

Гэтага маладога духам ветэрана беларускай сцэны завуць Алесь Камоцкі. З яго і пару іншых выканаўцаў, якіх можна палічыць на пальцах, пачынаецца, але і на іх



канчаецца класічная бардаўская музыка. Аднак сёння класікаў штораз менш і таму нецярпліва чакаем новых альбомаў і сакрэтаў бардаўскай душы. Чакаем, калі чарговы раз раскрые яе Алесь Камоцкі.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 31

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26:**

Яд, га, каханне, дах, на, ар, шанс, кальё, комікс, таката, год, жыта. Дар, маг, якар, дах, кот, шаман, алік, нянька, сёстры, ген, анёл.

Узнагароды, CD з дзіцячай беларускай музыкай „Сіняя зорка”, выйгралі **Аня Бяляўская** з Нараўкі, **Мая Мішчук** з Арэшкава, **Ангеліка і Адам Сцепанюкі** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Ukrop, Rosa, Rękaw, Interes, Klin, Nalewka, Bierz, Statek, Wió!, Roślina, Plecy, Bierz, Snob, Park, Język, Ob, As, Sto, To, Basen, Jał

№ 31 [29-07-2012]

# Пакудзелле па-сучаснаму

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

**Едучы напаўдзікай трасай Крынкі — канец свету, можна наткнуцца на нечаканую з'яву. На беразе Свіслачы, па-суседску з даўно вымерлай вёскай Ямашы красуецца вельмі арыгінальны і прасторны хутар. Ён нетыповы не толькі па прычыне яго густоўнай гліняна-саламянай забудовы з прыгожымі інтэр'ерамі, але і чалавека, які ў ім пасяліўся.**



— Я прыехала сюды з вялікага горада, каб пачаць жыццё нанава, — кажа гаспадыня хутара Ганна Сянкевіч. — У пошуках свайго месца на зямлі я пераехала ўсю Польшчу. Вырашыла запыніцца ў вялікіх, бязлюдных прасторах Крыншчыны. Дагэтуль я нават не ўсведамляла сабе, што тая прастора мне так патрэбная. Я захапілася таксама мясцовым насельніцтвам, якое вельмі адрозніваецца ад варшаўскага. Тут жывуць сапраўдныя людзі, ніхто не адыгрывае чужой ролі, а калі гэта робіць, кепска яму атрымліваецца. Спачатку я баялася, што захопіць мяне тут нуда і адзінота, але і з гэтым я справілася. Работы пры гаспадарстве хапае зранку да вечара. Увесь час штось дзеецца, завязваюцца новыя знаёмствы з мясцовымі людзьмі. Вядома, усё адбываецца без спешкі і гарадской мітусні, але для мяне дні мінаюць вельмі хутка. У першым этапе новага жыцця вельмі дапамагла мне леснічына Эва Грэсь, першая асоба, якая працягнула мне руку, прыняла ў сваю кампанію, пазнаёміла з людзьмі. Гэта чалавек з вялікім сэрцам і я ёй вельмі за ўсё ўдзячная. Спрыяльная часапрастора і магія гэтай зямлі напоўніла мяне новымі сіламі і ідэямі. Захацелася мне зрабіць нешта новае і карыснае іншым людзям. З патрэбы сэрца, на грунце сяброўскіх пасядзелак за гарбатай з мясцовымі жыхаркамі пачалі нараджацца цыклічныя і больш мэтанакіраваныя сустрэчы. Першае спатканне, да якога ўсе ўдзельніцы старанна рыхтаваліся, было прысвечана восеньскаму ўпамінанню продкаў. Кожная з нас рыхтавала кароткі даклад пра памінальныя абрады ў розных культурах, прысутных на Крыншчыне. На чарговай сустрэчы мая варшаўская сяброўка зусім бясплатна вучыла нас кравецтву. Цалкам цікавыя рэчы нам тады атрымаліся. Другая сяброўка, таксама неадплатна, правяла заняткі па дэкупажы і веленевай паперы. Вялікім зацікаўленнем карысталіся рабочыя сустрэчы з майстрам па гліне. Тут трэба было нам правесці збор грошай на куплю патрэбных матэрыялаў і дадатковых паслуг, звязаных з гэтай справай. Праводзілі мы таксама кулінарныя майстар-класы ў татарскім рэстаране Джанеты Багдановіч. Зімой я сарганізавала незабыўны вечар калядак. Для мяне гэта было магічнае спатканне, таму што ў маёй хаце сабраліся чатыры веравызнанні: праваслаўныя, мусульманкі, атэісткі-шукальніцы і каталічкі. Нягледзячы на ўсё, мы змаглі за адным сталом паспяваць, пагаварыць і адчуць узаемную падтрымку. Дзякуючы маім намаганням нядаўна ў Крынскім доме культуры выступіла беластоцкая тэатральная група „Каінцыдэнцыя" са спектаклем „Крывавая ятка" — сатырай на сучаснасць. Апошнім часам я далучылася да праекта „Старэйшыя ў акцыі", каб дастаць дафінансаванне на нашую дзейнасць, хаця б на куплю неабходных матэрыялаў для рукадзелля ці аплату інструктараў. Мае сустрэчы карыстаюцца штораз большай папулярнасцю, ёсць сталыя ўдзельніцы, далучаюцца новыя. Пачаткова мы думалі збірацца толькі восенню і зімой, калі найменш работы ў гаспадарцы, але жанчынам гэтага было недастаткова. Яны рашылі працягваць спатканні і ў астатніх, больш загружаных абавязкамі порах года. У будучыні планую надалей займацца рукадзеллем, але ў крыху іншым, характэрным для гэтай зямлі кантэксце, між іншым хачу запрасіць да нас мясцовую жыхарку, якая калісь вырэзвала папяровыя фіранкі. З дырэктаркай бібліятэкі Люцынай Юркевіч мы дайшлі да высновы, што гэтыя жаночыя захады вельмі спрыяюць аповедам, часам асабліва вартасным, кранаючым мясцовую гісторыю і культуру, таму трэба будзе звяртаць больш увагі менавіта на духовую старану нашай дзейнасці. Безумоўна, існуе сур'ёзная патрэба такога роду ініцыятыў. Жанчыны не хочуць прыводзіць сюды сваіх мужыкоў. Ім патрэбная бяспечная, свабодная прастора, у якой могуць адкрыцца і ўзаемна падтрымліваца. Усё ж такі жанчыны зусім па-іншаму вядуць сябе пры мужыках, ці незнаёмых прадстаўніках мужчынскага полу.

Гэтая прастора асабліва пашырылася і ўзмоцнілася 30 чэрвеня, калі ў хату Ганны Сянкевіч з'ехалі маладыя прадстаўніцы Беластоцкага аб'яднання жаночых ініцыятыў „Кабетэрыя". Старшыня гэтай няўрадавай арганізацыі, архітэктарка Малгажата Кіяк-Аляхніцкая расказала пра сваю дзейнасць і гісторыю знаёмства са спадарыняй Ганнай.

— Не так даўно я і дзве мае сяброўкі апынуліся ў мацярынскім водпуску. Нам сур'ёзна пачало бракаваць жаночай кампаніі. У Польшчы прынята, што мужчыны могуць выходзіць з хаты калі і куды ім захочацца, а жанчыны застаюцца з дзяцьмі, часта не маючы да каго рот адкрыць. З асабліва вялікімі сацыяльнымі цяжкасцямі змагаюцца гарадскія маладыя мамы. Там, у адрозненні ад вясковага асяроддзя, людзі вельмі на сябе закрытыя і неахвотныя аказваць падтрымку, таму маладыя мамы найчасцей трацяць псіхічную раўнавагу, пападаючы ў дэпрэсію. Жыццёвая практыка паказала, што не так проста выйсці з маленькімі дзяцьмі з хаты, каб хаця сустрэцца з кім-небудзь. Мы прынялі сур'ёзнае рашэнне аб арганізацыі дапамогі сабе і іншым маладым мамам. Цягам двухгадовай дзейнасці да „Кабетэрыі" далучылася нямала жанчын. Падабаецца ім тэматыка і форма прапанаваных сустрэч. Яны заўсёды могуць прыйсці са сваімі дзяцьмі, якім арганізуем апеку і гульні. Сваіх сіл прабуем у шматлікіх майстар-класах, якія самі сабе вядзем. Кожная з нас можа падзяліцца сваімі здольнасцямі і зацікаўленнямі. Першыя майстар-класы мы наладзілі ў чэрвені прошлага года. Тады прыйшло больш за шэсцьдзесят жанчын. У лютым гэтага года колькасць удзельніц павысілася да ста пяцідзесяці. У рамках праведзеных заняткаў нашыя жанчыны раскрывалі тайны, між іншым, гармоніі пачуццяў, спантаннага спеву, японскай каліграфіі, натуральнай касметыкі і кравецтва. Многія з нас цікавяцца альтэрнатыўнай адукацыяй, таму ў рамках дзейнасці „Кабетэрыі" па меры магчымасцей стараемся падтрымліваць заснавальнікаў такога тыпу навучальных устаноў.

Каб надалей павышаць узровень ісНавання, нам неабходна як найчасцей сустракацца не абавязкова ў толькі службовых абставінах. Звычайна мы бачымся толькі на пару гадзін, недзе ў цэнтры, пры нагодзе вырашання арганізацыйных спраў. Не маем сталай сядзібы. Раней нашыя дзелавыя сустрэчы праводзіліся ў Цэнтры сацыяльных ініцыятыў, потым у Інкубатары няўрадавых арганізацый, цяпер збіраемся ў кнайпах.

Летняя, канікулярная пара натхніла нас на інтэграцыйную паездку за горад. Больш-менш у час планавання першага падарожжа я атрымала э-мейл ад Ганны Сянкевіч, якая толькі што трапіла на сайт www.kobieteria.org.pl і заўважыла, што маем падобныя зацікаўленні. Неадкладна запрасіла нас да сябе з мэтай бліжэйшага знаёмства, абмену думкамі і ідэямі. Так атрымалася што я, як прафесійны архітэктар, якраз пачала цікавіцца хатамі з гліны і мне вельмі захацелася паглядзець будаўнічы шэдэўр Ганны. Дзяўчыны з „Кабетэрыі" ў пераважнай большасці з'яўляюцца прыхільніцамі здаровага ладу жыцця, які пранікае ва ўсе нашыя ініцыятывы. Вельмі яны захапіліся мясцовай цішынёй і чысцінёй прыроды. Тут мы адпачываем і зараджаемся пазітыўнай энергіяй. Выкарыстоўваем свой час таксама на падвядзенне нашых дзеянняў і дабаўленне ім больш канкрэтнага напрамку. У гэтым напэўна дапамагае нам сустрэча са спадарыняй Ганнай і яе сяброўкамі. Падглядаем, што робяць мясцовыя жанчыны, чым цікавяцца і як ім атрымліваецца сацыяльная дзейнасць. З таго могуць узнікнуць новыя, супольныя ідэі і пачынанні.



Вясковыя і гарадскія ўдзельніцы сустрэчы аб'ядналі свае сілы ў падрыхтоўцы арыгінальнага, вегетарыянскага застолля, багатага ў дыетычныя, лёгкія стравы і добрае віно. Можна было таксама папрабаваць розных гатункаў хлеба ўласнаручна імі спечанага. Ася з Кнышэвічаў ужо тры гады займаецца выпечкай. Першае паўгода жытнія булкі атрымліваліся ёй такімі цвёрдымі, што мужык не ведаў „ці гэта есці, ці цвік убіваць". Усё ж такі маладая гаспадыня не здалася. Цяпер сваёй выпечкай можа спакойна частаваць усіх. Прысутных спалучыў таксама тэрапеўтычны круг ля вогнішча, у якім пасобку вяліся аповеды пра непаўторныя лёсы кожнай з удзельніц спаткання. Атмасфера пашаны і адкрытасці паспрыяла доўгім разгаворам, завяршаючым чарговую жаночую сустрэчу ў гасцінных парогах спадарыні Ганны Сянкевіч.



■Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Гродзіская шматкультурнасць (1)

**У канікульны перыяд шматлікія аўтобусныя курсы спыняюць сваю актыўнасць, асабліва тыя, што наведваюць меншыя мясцовасці, у тым ліку і гмінныя. Вось цяпер немагчыма даехаць публічным транспартам у даабедні час з Беластока ў Гродзіск, гмінную мясцовасць, што быццам прыхавалася між Сямятычамі і Браньскам. Прыходзіцца камбінаваць, і то камбінаваць на сваіх дваіх...**

З аўтобуса злажу ў Верцені. Са славутай бельска-сямятыцкай шашы, якая быццам аддзяляе мясцовы ўсход ад захаду, відаць тартак. Менш відаць пункт прыёму малака, бо яго пачынае скрываць час за зеленню вызваленага ад чалавечай увагі пустазелля. Пасярэдзіне вёскі двухпавярховы, але прытульны драўляны будынак адукацыйнага прызначэння. Цяпер невялікую яго частку займае нейкая сям'я, мабыць з сацыяльнага размеркавання, іншыя вокны сумна паглядаюць навонкі. Але вокны сялянскіх дамоў больш вясёлыя, нягледзячы на адсутнасць школы.

Большы школьны будынак стаіць у адлеглых на пяць кіламетраў і аддзеленых ад Верценя лесам Клапотах; гэта некалькі шляхецкіх вёсак, якія я, аднак, пакіну пад адной назвай. На панадворку тамашняй адукацыйнай установы прылады для дзіцячых гульняў, аднак стаяць яны ў нетаптанай траве — значыць, зацікаўленне імі, мабыць, памяркоўнае. Невясёлую дэмаграфію ўскосна пацвярджае прадавачка, што ў краме каля расходных дарог: булкі ў ейную краму пастаўляюць кожны другі дзень. Недалёка, у вобрубе вёскі Клапоты-Станіславы, касцёл. Партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Pierwotnie wieś ta należała do parafii Drohiczyn. W 1675 roku Tomasz Skiwski, dziedzic Skiw i Narojek, ufundował w okolicach obecnego kościoła kaplicę dojazdową. Obecny murowany kościół pw. Matki Bożej Różańcowej został zbudowany w latach 1938-1939, z ofiar parafian. Jesienią 1939 roku, z obawy przed zajęciem nowo wybudowanej świątyni przez wojska sowieckie, wszystkie obrazy i paramenty liturgiczne przeniesiono z kaplicy i zaczęto odprawiać nabożeństwa. W 1974 roku zostały zainstalowane organy, pochodzące z kościoła Podwyższenia Krzyża Świętego w Hajnówce". На тэрыторыі парафіі пражывае 910 душ, у тым ліку 726 католікаў...

Чарговая вёска — Крынкі-Саболі. Некалькі іншых „крынскіх" вёсак далей — між Гродзіскам і Пабікрамі. Крыху за вёскай, перад жвіровым кар'ерам, мемарыяльны крыж тром братам Косцюкам: Якубу, Юзафу і Уладыславу, забітым там гітлераўцамі ў 1943 годзе. Тамаш Яшчолт, аўтар манаграфіі пра Гродзіскую гміну, так піша пра гэтую вёску: „Pierwotnie była to wieś bojarów ruskich, którzy osiedli tutaj jeszcze za czasów ks. Witolda. W 1921 r. we wsi były 52 domy, w których mieszkały 224 osoby (w tym 212 Polaków, 10 Białorusinów i 2 Żydów, a według wyznania: 198 katolików, 24 prawosławnych i 2 żydów)".

У пачатку вёскі Макаркі красуецца свежымі фарбамі будынак грамадскага прызначэння; пляц перад ім вымашчаны свежанькім асфальтам. Канкрэтнай шыльды на будынку няма, затое вялікая табліца энігматычна інфармуе, што сюды былі прыцягнуты сродкі з еўрасаюзных фондаў на „poprawę warunków dla działalności kulturalnej i wspieranie rozwoju lokalnych wspólnot". Гаражны адсек дазваляе меркаваць, што тут і дэпо, і вясковая святліца. З другога боку дарогі крыж на бетонным пастаменце; кірылічны надпіс інфармуе, што крыж быў пастаўлены ў 1918 годзе, а дата на агароджы — што яна была выканана ў 1998 годзе.

Каля крайніх хат сабралася група вяскоўцаў і я заходжу да іх за інфармацыяй. Паведамляюць яны мне, што яркі будынак у пачатку вёскі гэта святліца, пабудаваная каля трыццаці гадоў таму на месцы колішняга драўлянага школьнага будынка. У той час дзяцей з Макаркаў перавялі ў школу у суседнія Рыбалты. І пра крыж паведамляюць, што адноўлены; тут і старэнькі праўнук будаўніка таго крыжа. І даведваюся яшчэ, што ў вёсцы больш крыжоў, перад якімі людзі моляцца ў час абыходу палёў. Абыход той адбываецца ў дзень каталіцкага Божага Цела. Тады з гродзіскай царквы ідзе ў Макаркі хрэсны ход з харугвамі, абыходзіць ён палі, спыняецца для малітваў



Уніяцкая царква ў Гродзіску

перад крыжамі. Я ўсёй вёскі не абыходзіў, але на сваім шляху мінуў чатыры крыжы, на ўсіх іх старыя кірылічныя надпісы...

Тамаш Яшчолт так піша пра Макаркі: „Pierwotnie w XV w. wieś nazywała się Makarczyce. Nazwa pochodzi od imienia cerkiewnego Makary. W pobliżu wsi znajduje się grupa kurhanów z okresu wczesnego średniowiecza. W 1726 r. wieś była wymieniona w składzie parafii unickiej w Grodzisku. W 1921 r. we wsi było 45 domów, w których mieszkały 253 osoby (wszyscy narodowości polskiej, w tym 29 katolików, 207 prawosławnych i 17 żydów)".

Пра сам Гродзіск пісаў я раней, амаль два гады таму. Зараз у гмінным мястэчку крыху змен, м.інш. у цэнтры мясцовасці, асабліва вакол старой уніяцкай царквы, пакладзены новенькі насціл тратуараў з гранітнай брусчаткі. Ды невялікі экскурс у мінулае; Тамаш Яшчолт: „Grodzisk w dwudziestoleciu międzywojennym był dużo mniejszy niż dziś. Według spisu powszechnego z 1921 r. było tutaj 40 domów, w których mieszkały 274 osoby. Według wyznania we wsi było 89 katolików, 151 prawosławnych i 34 wyznania mojżeszowego; 266 osób uznało się Polakami, 5 Białorusinami, a tylko trzech Żydami".

Адным з выдатнейшых ураджэнцаў Гродзіска быў Уладыслаў Ябланоўскі (1841-1894), лекар, які ў 1866 годзе выехаў у Турэцкую імперыю, дзе вызначыўся выдатнымі заслугамі ў лячэнні халеры на тэрыторыі Арменіі і Албаніі ды чумы ў Іраку і Іране; памёр у Бургасе. Пакінуў ён па сабе і мемуары, у тым ліку і з гродзіскага дзяцінства: „Przy obszernej przestrzeni zwanej rynkiem, ku któremu zbiegały się cztery drogi, wznosiły się jeszcze dwie imponujące budowy: cerkiew drewniana z takąż przy niej dzwonnicą i plebanią ukrytą w pośrodku ogrodu owocowego i nieźle utrzymanej pasieki. Proboszczem tutaj był ksiądz wicedziekan Budziłowicz, zależący od dekanatu w Drohiczynie. Osobistość imponująca swym wzrostem, lecz bardzo poważna i niemniej sympatyczna. Pleban był dawniej Uniatem. Nazywano go powszechnie księdzem, jego żonę księdzową, a córki pannami. Więc gdy się udawano z odwiedzinami — powiadano zwykle: „pójdziemy do księdzów", którzy byli bardzo gościnni i dla mnie okazywali się wyłącznie względnymi".

Айцец Рыгор Сасна: „30 kwietnia 1839 roku, po powrocie unitów na wiarę przodków, ks. Stefan Budziłowicz przyjął prawosławie i w latach 1840-1856 pełnił funkcję wice-dziekana dekanatu Drohiczyńskiego. Zmarł 25 czerwca 1857 roku i został pochowany przy cerkwi Narodzenia N.M.P. w Grodzisku. W 1922 roku cerkiew ta została zamieniona na kościół, a grób wraz z pomnikiem pozostaje tam po dzień dzisiejszy". Толькі згаданая раней плябанія згарэла 7 мая 1942 года...

З Гродзіска кіруюся быццам назад, у бок Дзядковіч. Праходжу каля Мірынаўкі, дзе ўражвае мяне мураваная капліца з вялікай скульптурнай выявай Яна Непамуцкага, пастаўленая каля двухсот гадоў таму. Надпіс на адмысловай таблічцы інфармуе, што святы з'яўляецца заступнікам ад паводак і ўзбураных вод, ахоўнікам мастоў, брадоў і сямейнага жыцця, палёў ды пасеваў перад падтапленнем і засухай.

Тамаш Яшчолт так піша пра Мірынаўку: „Do poł. XVI w. wieś była nazywana Mirinowo-Mirynowo, następnie Mierzynowo. W drugiej poł. XVII w. pojawia się obecna forma Mierzynówka. Wieś należała do dóbr rudzkich nadanych w 1434 r. Pretorowi z Korczewa". Пазней уласнікі вёскі змяняліся, было іх многа... „Po powstaniu listopadowym Mierzynówka przeszła w ręce Zadarnowskich, pochodzących z powiatu brzesko-litewskiego. Po odzyskaniu niepodległości majątek w Mierzynówce należący do Wacława Zadarnowskiego został całkowicie rozparcelowany i wyprzedany. Nabywcami byli mieszkańcy pobliskich wsi. Duża grupa nabywców przybyła z okolic Stoczka Łukowskiego i Garwolina. W 1921 r. w obu częściach Mierzynówki było 51 domów, w których mieszkały 253 osoby (wszyscy narodowości polskiej, w tym: 200 katolików, 58 prawosławnych i 5 żydów)".

Паколькі спадар Яшчолт прыводзіць канфесійныя статыстыкі для амаль усіх вёсак Гродзіскай гміны, дык прывяду за ім некаторыя ад 1921 года: Чорная-Царкоўная: 152 асобы (36 польскай нацыянальнасці (П), 114 беларускай (Б) і 2 яўрэйскай (Я), а паводле рэлігіі: 36 (к)аталікаў і 116 (п)раваслаўных); Бішэва: 115 (усе палякі: 111к і 4п); Богушы-Старыя: 115 (усе палякі: 114к і 1п); Чорная-Сярэдняя: 299 (62П, 216Б і 21Я: 56к, 222п і 21 (ж)ыд); Дрохлін: 101 (65П і 36Б: 13к і 88п); Яшчолты: 219 (218П і 1Б: 210к і 9п); Камянкі: 202 (201П і 1Б); Касянка-Лясная: 92 (усе палякі: 88к і 4п); Казлова: 141 (74П і 67Б: 41к і 100п); Кракоўкі-Влодкі: 53: 52 палякі-католікі і 1 беларус-праваслаўны.

Цікавае апісанне вёскі Мора, што між Клапотамі і Астражанамі: „Pierwotnie istniejąca tutaj osada nazywała się Tworkowo. Na początku XVI w. wieś przybrała nazwę Morze, która pochodzi zapewne od nazwy herbu szlachty tu mieszkającej — Mora. W XVI i XVII w. rozróżniano dwie części wsi: Morze Mazury i Morze Ruskie. W pierwszej mieszkała szlachta pochodzenia mazowieckiego, natomiast w drugiej bojarzy ruscy, którzy jeszcze w XVII w. używali charakterystycznych imion, np. Chwiedor, Parachwin. W ciągu tego stulecia wszyscy się spolonizowali i przeszli na katolicyzm. W 1921 r. było we wsi 36 domów zamieszkałych przez 182 osoby (wszyscy narodowości polskiej i katolicy)".

І яшчэ крыху статыстык для чарговых вёсак Гродзіскай гміны ад 1921 года. Нявярова-Пшыбкі: 72 асобы (усе палякі: 69к і 3п); Сямёны: 273 (усе палякі: 171к і 102п); Стадніцкі: 310 (308П і 2Б: 211к і 99п); Сыпні: 229 (155П і 74Б: 154к і 75п); Жэры-Быстры: 97 (усе палякі: 89к і 8п). З таго часу мінуў 91 год. За гэты перыяд прыведзеныя лікі напэўна памяняліся; як яны выглядаюць цяпер — не ведаю, але мяркую, што міграцыйныя працэсы наблізілі тамашнія статыстыкі, асабліва ў нацыянальным самавызначэнні, пад агульнакраёвыя паказальнікі.

(*працяг будзе*)

# Палічанскі вернісаж

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Таварыства „Стакротка” ў Палічнай арганізавала выставу прац удзельнікаў майстар-класа ў рамках праекта Польска-Амерыканскага фонду свабоды „Раўняць шанцы-2011”. А вось як гэта праходзіла...

Рэалізацыя праекта пачалася восенню мінулага года. Таварыства купіла фотаапараты. Арганізавалі майстар-клас. Моладзь ва ўзросце 13-19 гадоў працавала ў тэматычных групах. Юныя фатографы знаёміліся з прынцыпамі працы фотаапаратаў тыпу камера-абскура, паглыблялі веды па гісторыі першых здымкаў, цікавіліся спосабам пабудовы камеры, асвойвалі тэхніку абпрамянення і праяўлення пінхол фатаграфіі. Пад прафесійным наглядам Каспера Пясецкага з Познані і Данеля Гільбрэхта з Вангроўца моладзь выконвала працы на кінематаграфічнай мультыплікацыі, якімі пакарысталася пры зборцы фільма. Рабілі яны здымкі на прыродзе, выкарыстоўвалі старыя фатаграфіі і сямейныя здымкі. Для гэтай мэты былі наладжаны кантакты з жыхарамі вёскі. Моладзь хадзіла ад хаты да хаты, распытвала пра старыя фатаграфіі і прапанавала паказаць іх на выстаўцы. Пазычаныя здымкі былі сканаваны. Супольная сесія з жыхарамі вёскі праходзіла 3 чэрвеня. Гэта быў апошні этап працы майстар-класа. Затым наступіў час публічнай прэзентацыі напрацовак моладзі.

Дзень 15 ліпеня быў незвычайнай датай для членаў таварыства. У святліцы рух, моладзь рыхтавала выставу. На бакавых сценках залы былі памешчаны старыя ўвялічаныя здымкі і сямейныя фатаграфіі. Побач на дыяграмах і табліцах прэзентаваліся здымкі на прыродзе і працы ўдзельнікаў майстар-класа. Пры ўваходных дзвярах на століку змяшчаліся пінхол фотаапараты і камеры, якімі карысталася моладзь у час працы. Экспазіцыя была гатовая на прэзентацыю.

Вернісаж выставы пачаўся ў 17 гадзін. Шматлюдную публіку і гасцей прывітала старшыня таварыства "Стакротка" Аліна Зазулінская. Мерапрыемства ўдастоілі бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, дырэктар Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк, дырэктар Гміннага асяродка культуры Лявон Алексяюк, настаяцель прыхода ў Вэрстоку а. Павел Кучынскі з матушкай, журналістка радыё „Рацыя” Наталля Герасімюк ды калектывы „Каліна” з Дашоў і „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага. Затым дэманстраваліся слайды, якія адлюстроўвалі працу ўдзельнікаў майстар-класа. Пасля прэзентацыі кожны аўтар атрымаў падарунак. Такія ж падарункі атрымалі члены праўлення „Стакроткі” і асобы, якіх здымкі змяшчаліся на выстаўцы. Ад бурмістр Ірэны Негярэвіч удзельнікі майстар-класа атрымалі шыкарна пераплеценую публікацыю „Dobrowoda. Zachować od zapomnienia”, выдадзенеую Таварыствам сяброў Кляшчэлеўскай зямлі. Будучы пры слове, бурмістр падзякавала спонсарам: спадару Анатолю з Гайнаўкі, Агенцтву Інкасо, фірмам „Водаправоды”, ПУК і „Руно” з Гайнаўкі, кааператыўнаму банку ў Гайнаўцы, фірме „Опэль” ў Беластоку, Банку ПКО, фірме „Франко” з Бельска-Падляшскага, канцылярыі натарыуса Марка Васілюка з Гайнаўкі, гандлёваму прадпрыемству Валенты Шчука ў Кляшчэлях і транспартнай фірме „Вэолія” з Бельска-Падляшскага.





У мастацкай частцы выступалі наперамен „Каліна” з „Васілёчкамі”. Дашоўскія самдзейнікі запрэзентавалі тры сцэнкі: „Куры”, „На вячорках” і „Суседкі”. Паколькі „Каліна” весяліла публіку забаўнымі гісторыямі сварлівых суседак, „Васілёчкі” прапанавалі народныя мелодыі. Канцэрт пачаўся песняй „І туды гара, і сюды гара”. Пасля прагучала польская песня „Pod jaworem”, затым былі іншыя беларускія гіты. Выступ абодвух калектываў быў сардэчна ўспрыняты аўдыторыяй. Пасля кожнага нумара не сціхалі громкія апладысменты. „Васілёчкі” некалькі разоў вымушаны былі выходзіць на сцэну пасля гучных „бісаў”. Публіка не адпускала. У знак прызнання бельскія госці абмяняліся з арганізатарамі падарункамі і выказалі волю далейшага супрацоўніцтва, а бурмістр Ірэна Негярэвіч запрасіла „Васілёчкі” на святкаванні асвячэння вясковай святліцы ў Залешанах, якія адбудуцца 29 ліпеня. Мастацкая частка закончылася, але імпрэза прадоўжылася пры супольным застоллі. Арганізатары запрасілі на гарачую каўбаску. Пачастунак арганізавалі ў прыспасобленай палатцы побач святліцы. Сталы ўгіналіся ад яды і напіткаў. Быў святочны торт, якім моладзь пачаставала старэйшых жыхароў вёскі і запрошаных гасцей. І былі песні. Шмат песень нашых, тутэйшых. Спевакамі верхаводзілі дашоўскія пяюнні. Калі я пакідаў кампанію пасля дзесятай гадзіны вечара, жыхары вёскі разам з членамі таварыства „Стакротка” заставаліся пры застоллі. Гэта добры знак. Бо ў народзе кажуць: „У яднанні — сіла”.




Часам у беларускім сеціве ўзнікаюць розныя сайты, якія невядома кім створаны і невядома каму належаць. На першы погляд, змешчаная на іх інфармацыя падаецца карыснай і нават арыгінальнай, але на другі — адсутнасць якіх-кольвечы „ідэнтыфікацыйных” звестак неяк насцярожвае і зніжае давер да данага сайта. Прыкладам такой „неапазнавальнай” вэб-старонкі можна назваць анлайн-газету „Дыялог”, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе www.dyjalog.info.

Зайшоўшы на сайт гэтага інтэрнэт-СМІ цікаўны карыстальнік нідзе не знойдзе адказаў на пытанні хто выдае „Дыялог”, з якой мэтай гэта робіцца, якая мэтавая аўдыторыя ў выдання. У той жа час выгляд інтэрнэт-газеты наводзіць на думку, што рабілі яе людзі даволі вопытныя ў вэб-дызайнерскай справе, ды і журналісцкія тэксты прыемна ўражваюць сваёй якасцю.

Што ж тычыцца выяўлення галоўнай старонкі, то яно падзелена на тры традыцыйныя часткі. Праўда, дзяленне не надта кідаецца ў вочы — погляд засяроджваецца на фотаздымках, што месцяцца пад выйсцямі да рубрык сайта. Нягледзячы на тое, што звычайна здымкі з невялікай інфармацыяй з'яўляюцца анонсамі і выйсцямі да больш падрабязных тэкстаў, на сайце „Дыялога” гэтая традыцыя паламаная. Здымкі мусяць распавесці самі пра сябе адным сказам.

Колькасць рубрык на сайце невялікая — усяго шэсць: „Галоўная”, „Грамадства”, „Палітыка”, „Эканоміка”, „Здарэньні” і „Культура”. Адметнасцю галоўнай старонкі з'яўляецца наяўнасць рубрык, дзе змешчана інфармацыя з беларускіх рэгіёнаў. У самым нізе знаходзіцца своеасаблівае рэйтынгаванне ўсіх „дыялогаўскіх” тэкстаў. Яны вызначаюцца як „Апошнія” і „Самыя чытаныя”. Там жа месціцца „Архіў”. Праўда, складаецца ён усяго толькі з аднаго месяца — чэрвеня 2012 года. Такая акалічнасць дае падставы сцвярджаць, што „Дыялог” узнік зусім нядаўна, а гэта значыць, што разнастайныя хібы на даным сайце з'яўляюцца выключна „хваробай росту”. Да іх належыць і немагчымасць азнаёміцца са зместам архіва — нас перанакіроўваюць на галоўную старонку.

Зважаючы на наяўнасць мяккіх знакаў паміж падвоеннымі зычнымі, прыходзім да высновы, што анлайн-газета мае апазіцыйную накіраванасць. З таго найбольшая колькасць тэкстаў знаходзіцца ў рубрыках „Грамадства”, „Палітыка” і „Эканоміка”, то бок, кранаюць тыя тэмы, дзе цяперашняя беларуская ўлада не здольна весці шчырую размову і сумленна спрачацца.

У той жа час рубрыка „Культура” пакуль абсалютна пустая. З таго ўзнікае пытанне: няўжо ідэйныя натхняльнікі сайта не знайшлі за месяц яго існавання ніводнай вартай апублікавання навіны на культурніцкую тэму?

Рубрыка „Здарэньні” месціць толькі адно, вельмі цікавае паведамленне пра раскапаныя раней нікому невядомыя магілкі ў мястэчку Глыбокае, што на Віцебшчыне, пра якія не памятаюць нават тамтэйшыя старажылы. Аказваецца, робіць выснову таксама невядомы аўтар тэкста, „зь вялікай верагоднасьцю можна казаць, што на старых могілках, аб якіх ніхто не памятае, пахаваныя іх продкі ў восьмым калене і старэй”.

Да плюсаў сайта трэба дадаць, што мае ён, акрамя беларускай, яшчэ рускую і англійскую моўныя версіі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Таварыства філаматаў

Чым было Таварыства філаматаў насамрэч дагэтуль не могуць разабрацца нават гісторыкі. Адны лічаць яго адгалінаваннем адной з масонскіх ложаў, іншыя — ледзь не рэвалюцыйным аб'яднаннем, трэція — проста і адпаведна дэкларацыі — згуртаваннем творчых, апантаных прагай да навукі, маладых людзей. Магчыма ўсё гэта пераплятался і напэўна было неаднародным. Тайныя таварыствы, якія гуртавалі вальналюбцаў, сталі ўтварацца на тэрыторыі Беларусі пасля вайны 1812 года. Тайнае патрыятычнае Таварыства філаматаў у Віленскім універсітэце дзейла з 1817 па 1823 год. Яго асноўнымі лідарамі на пачатку былі Юзаф Яжоўскі, Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ануфры Петрашкевіч, Францішак Малеўскі, Ян Чачот. Што ні імя — то яркая творчая асоба. За галоўную мэту ставілася рознабаковая дзейнасць на карысць Айчыны, прыярытэт надаваўся аваладанню рознабаковымі ведамі, вывучэнню замежных моў. А генеральны курс браўся на асвету народу і вызваленне яго з-пад прыгону. Неўзабаве ўзніклі і розныя адгалінаванні, самымі вядомымі з якіх былі „Саюз сяброў”, „Прамяністыя” і філарэты — „аматары дабрачыннасці”. Месцамі збору падпольнікаў былі не толькі віленскія патаемныя адрасы. Збіраліся яны і ў малых мясцовасцях. Прыкладам, сярод канспіратыўных месц былі ваколіцы вёскі Карчова, дзе ляжаў вялікі камень, каля якога збіраліся сябры. З таго часу гэты валун так і называецца „Камень філарэтаў”.

Бальшыня філаматаў паходзіла родам з Заходняй Беларусі, таму невыпадковым быў і іх інтарэс да беларускага фальклору, які яны рупліва збіралі. Асаблівая роля тут належыць Чачоту. Фальклорныя вобразы выкарыстоўвалі і іншыя, паколькі з філаматаў ледзь не кожны быў паэтам.

Віленскія філаматы мелі сваіх паралельных аднадумцаў і паслядоўнікаў. Прыкладам у канцы 1819 ці пачатку 1820 года была створана тайная арганізацыя ў Свіслачы — Таварыства аматараў навук. Яе старшынём быў Дыяніс Шлаеўскі, сакратаром — Вашчыловіч, вядома, што ў суполку ўваходзілі 15 чалавек. Ідэйным натхняльнікам гэтага згуртавання быў Віктар Гельтман, публіцыст, пазней удзельнік паўстання 1830 года.

Таварыства філаматаў было раскрытае расійскімі ўладамі пасля недарэчнасці. Пачаліся масавыя арышты. Такія лідары як Антон Адынец, Ігнат Дамейка, Міцкевіч, Петрашкевіч, Аляксандр Ходзька, Чачот былі арыштаваны і высланы ў глыбіню расійскай імперыі. Зан увогуле быў засуджаны да зняволення ў равеліне. Усяго было рэпрэсавана 20 чалавек, яшчэ 80 арыштаваных пасля допытаў выпусцілі пад сталы нагляд паліцыі. Пасля ссылак філаматы разляцеліся па ўсім свеце, бальшыня з іх стала выдатнымі навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі, літаратарамі. Таварыства філаматаў стваралася „не на хвілю, не дзеля мімалётнай забавы, а на ўсё жыццё”. У іх статуце падкрэслівалася, што якая б каго не напаткала доля, куды б не закінуў лёс, яны застаюцца сябрамі Таварыства назаўсёды. Выгнаннікі з радзімы выконвалі гэтую студэнцкую клятву да сваіх апошніх дзён. Асветніцкае зерне, кінутае філаматамі на віленскую глебу, прарасло пазней — у нашаніўскі перыяд яно ўвасобілася ў сапраўднае нацыянальнае адраджэнне.

У наш час была спроба інтэлігенцыі адрадзіць асветніцкі філаматкі рух. Здаецца, яна не вельмі ўдалася — цяперашняя моладзь не вельмі імкнецца да пашырання светагляду, а сучасныя камунікацыі дазваляюць здабываць веды іншым шляхам. Філаматы ж засталіся ў гісторыі яркім прыкладам студэнцкага братэрства.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# На вёсцы

Наша вёска старой робіцца. З кожным годам людзей усё менш і менш. Людзі паміраюць, а радзіцца не родзяцца. Прайшоўшы па вёсцы, можна палічыць, што амаль кожная хата пустою стаіць. Як у нас кажуць: жыхары выехалі ў Закапанэ. Толькі з таго Закапанага ніхто назад ужо не вяртаецца. Бо хто з таго свету здолеў вярнуцца?

І гаспадароў самых сапраўдных мала асталося. Такіх, што па-новаму гаспадарaць сем-восем на вёску асталося. А вёска немалая. Выміраюць людзі; і дамы, што пустымі асталіся, таксама як бы памiралі. Зрабіліся смутнымі, пачарнелі, вокны запушчаныя, заслоны апушчаныя вісяць як папала. Ніхто іх не даглядае, шыб у вокнах не мые, брак старанлівай гаспадарнай рукі. Калі хто такую хату ўбачыць, адразу зразумее, што яна пустая стаіць. Гаспадары або паўміралі, а можа ў горадзе жывуць. Толькі хаты, якіх гаспадары ў горадзе жывуць, інакш выглядаюць, таму што іх гаспадары хаця раз у год туды заглядаюць і хаця павярхоўна пра парадак дбаюць, яшчэ пра старое жыллё зусім не забылі.

А ўзяць некалькі дзесяткаў гадоў назад — жыццё тут інакш выглядала. Вёска жывою была і здавалася, што паканаць яе не будзе сілы. А выйшла зусім інакш, час сваё зрабіў. Людзей магіла забрала а ўсё апошняе прырода зрабіла. І адвячоркам у вёсцы песні прапалі, ніхто іх цяпер не спявае. А чаму? Ці можа галасы ўжо ў маладых прапалі? Ці слоў не ведаюць? А можа культура іншая настала?

Цяпер усё нам Захад дае. А на тым Захадзе ўсё наадварот. Яны не маюць славянскай душы. І кахаць яны не ўмеюць так як мы. У нас на кожным кроку песня сама складаецца, толькі запісвай і спявай. Вось і наша моладзь бярэ прыклад з Захаду і таксама спяваць не хоча. А гэта ўсё не на нашу культуру ўплывае, таму яна ў нас і падупадае.

Куды падзеліся тыя суботнія вечары, калі кожны раз на вуліцы гармонік іграў? Пачуўшы гэта кожны як умеў так яму падпяваў. І так бывала аж да позняй ночы. Па вуліцы раздаваўся смех і дзявочы рогат. І хаця дзяўчына ўсяго ў хаце не зрабіла, аднак мамачку міленька прасіла:

— Мамусю, дазволь, я ўжо пабягу. Пэўна ўжо Коленька мяне выглядае. І паслухай, як наш Сёмачка прыгожа грае.

А Сёмачка, гэта ж бацька Ванькі з „Зоркі”. Вось якія тады былі вячоркі. І цягнуліся яны ўсю ночку. Неаднойчы і мамачка выходзіла на вуліцу палюбавацца на сваю доню. *Под окном черёмуха колышется, Распуская лепестки свои. За рекой знакомый голос слышится, И поют всю ночку соловьи...*

— Не чакай мяне матуля так раненька, хачу я яшчэ крыху пагуляць.

— А гуляй-гуляй, маё дзіцятка, будзіць цябе я зранку не прыйду. Паспіш даўжэй у нядзельку, а кароўку на пашу сама адвяду.

Вось бачым, якое ў матулі сэрца добрае: дазваляе дачцэ ў суботу пагуляць, а ў нядзельку даўжэй паспаць. Вось як даўней на вёсцы бывала. Усю ноч з суботы на нядзелю гулялі. А потым яшчэ і рандкавалі. На другі дзень трэба было раненька ўставаць і кароўкі на пасавое выганяць.

А некаторыя хлопцы разумнейшыя былі. З вечара бацькоў прасілі:

— Не будзіце мяне зранку, таму што хворы буду.

Некаторы бацька паціхеньку бурчаў:

— Нічога, зранку я хваробу з цябе выганю. Як дасі рады праз ноч гуляць, дык і зранку павінен устаць. Дармаеда карміць не будзем.

Як бачым, розныя былі людзі. У сям'і маці ўсё выпраўляла і старому неаднойчы так казала:

— Ты свае погляды пакінь, толькі ўспомні, які ты сам даўней быў, калі яшчэ да мяне хадзіў.

Тады бацька гаворку пакідаў і, як за маладых гадоў, на панадворак уцякаў. З хлява коней забіраў і на пасавое іх выводзіў. А хлопец да абеду аддыхаў. На тое ў нас і бацькі бываюць, што пра дзяцей штодзённа дбаюць.

А вось цяпер усё змянілася. Вячоркі прапалі ўжо даўно, гармонік чамусьці ўжо не грае. Другі ўжо час настаў. Калі б цяпер гармонік адвячоркам раздаўся, дык не адзін так загаварыў бы:

— Вось бачыш, ужо такі а такі напіўся. Вячэрнюю цішыню парушае. Сам не спіць і іншым не дазваляе.




Людзі парабіліся другімі, як даўней бывалі. Таму на вёсцы кругом цішыня і спакой. Прайдзі адвячоркам па вёсцы — нікога на лавачцы не спаткаеш. Усе па хатах сядзяць і ў тэлевізары вочы ламаюць. Больш пра свет ведаюць, як пра сваю вёску. Не дбаюць ужо хто каму перакасіў ці пераараў. Лепш ведаюць, дзе хто ў свеце ваюе, як каралева англійская жыве, што Абама сказаў, колькі Лукашэнка непакорных у турму загнаў. Ну, папросту палітыкі ўсе.

А ці патрэбна ўсё гэта нам, нам — простым мужыкам? Усё гэта тым, хто іншых турбот не мае, дык з нуды ўсюды свой нос піхае. З гэтага мы карысці не маем. Як да гэтай пары нас зямелька карміла, прыгожа і весела было жыць на зямлі. Ці ў горадзе, ці на вёсцы — спакойна жылося.

Дай нам, Божа, сілу, спакойныя дзянёчкі пашлі. Каб далей, далей яшчэ пажыць нам, як дагэтуль пражылі. Пашлі нам чыстае неба і ўсё, што нам у жыцці патрэбнае. Забяры ад нас хваробы і непатрэбныя турботы.

**Грыша МАРОЗ**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

1. від матэматычнага вылічэння, акцыя = 11 _ 12 _ 37 _ 13 _ 19 _ 18 _ 17 _;
2. ім яго выбіваюць = 32 _ 34 _ 31 _ 30 _;
3. нюхаўка = 27 _ 28 _ 26 _;
4. пласт = 38 _ 3 _ 6 _ 14 _;
5. маянэз або бешамель = 21 _ 33 _ 29 _ 15 _;
6. парашок з хіннага дрэва, які выкарыстоўваецца ў медыцыне, напрыклад для лячэння малярыі = 25 _ 24 _ 16 _ 35 _ 36 _;
7. чалавек, які парваў сувязь са сваім асяроддзем і вядзе валацужніцкае жыццё ў знак пратэсту супраць наяўных сацыяльных адносін = 5 _ 4 _ 39 _ 40 _;
8. месца для румянца = 9 _ 7 _ 8 _ 1 _ 2 _;
9. гнойная або запальная ранка на скуры або слізістай абалонцы цела = 20 _ 10 _ 22 _ 23 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | | | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | | | | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
| | | | | | | | | | 36 | 37 |
| | | | | | | | | 38 | 39 | 40 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Пяро, доля, дубіна, івасі, пік, алень, жакет, нацыя, экран, мох, Латвія, вайна, аса, від, свастыка.

Рашэнне: **Я, паводле адукацыі і паходжання — эканаміст** (фраза Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін Вялікіх.

## 29.07 — 04.08

**(22.03. — 20.04.)** Будзь вельмі ўважлівы пры агні і электратоку. У панядзелак лепш не карыстайся ліфтам. У аўторак знойдзеш тое, што даўно шукаў. Лішняя мітусня вакол бытавых спраў не паможа табе з імі справіцца.

**(21.04. — 21.05.)** Табе здасца, што запутаўся і не знаходзіш адказу на важныя пытанні, а на самай справе перабольшыш свае праблемы. З часам усё само па сабе вырашыцца. Нервы можа направіць пераўстаноўка мэблі ў хаце. У аўторак важныя справы перакладзі на заўтра. Цёплы вецер у чацвер прынясе здароўе. У пятніцу будзь рашучым і засяроджаным.

**(22.05. — 22.06.)** У тваім жыцці адбудзецца штосьці новае і незвычайнае, інтрыгуючыя падзеі. Можаш прыцягнуць усё, што хочаш. Вельмі ўдадыя ў любоўным плане чацвер і пятніца. У суботу не афішуйся з уласнымі планамі і ўвогуле трымай язык за зубамі.

**(23.06. — 23.07.)** Новыя сувязі з партнёрамі па справах могуць аказацца вельмі моцнымі. Больш таго, можаш закласці аснову для сваіх будучых фінансавых поспехаў. Добры тыдзень для шукаючых працу. У панядзелак могуць уцягнуць цябе ў жорсткі канфлікт з незнаёмымі. У аўторак лепш не ідзі да цырульніка. У суботу будзеш вырашаць справу важную для тваіх блізкіх.

**(24.07. — 23.08.)** Праяўленне нядобрай энергетыкі можа ўвесці ў тваё жыццё хаос і напругу. Больш увагі аддай свайму здароўю. Першая палова тыдня багатая на новую інфармацыю і новыя знаёмствы. У панядзелак не наймай кватэры. У аўторак правер свае сродкі на крэдытнай карце. У сераду не ініцыюй канфліктаў. У пятніцу не ўстаўляй акон і дзвярэй ды новых замкоў у сваёй хаце.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш мець вясёлы, добры настрой (што не ўсім спадабаецца!). Вялікая магчымасць вялікіх памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў тваіх і іншых асоб. Не кіруйся хвіліннымі прагамі і жарсцямі. У панядзелак можаш пачуць вельмі шмат важнага для цябе. У чацвер пільнуй гадзінніка.

**(24.09. — 23.10.)** Лепшая фізічная форма. Залаты час для тых, хто не меў яшчэ спосабу задаволіць сваіх амбіцый. Цяпер маеш шанц заявіць аб сабе і заўважна прасунуцца ў кар'еры. У аўторак твая шчырасць і сумленнасць памогуць развеяць усе недамоўкі. У чацвер не палохайся, калі здасца табе, што ўсё валіцца. У пятніцу не атруціся ежай.

**(24.10. — 22.11.)** Варта будзе схадзіць да лекара. Добры час для шукаючых працы. Будзь гатовы да сюрпрызаў сваіх кампаньёнаў. З катэгорыі роўных партнёраў спрабуюць цябе перанесці на ступеньку ніжэй (насі чорны турмалін як ахову ад зайздроснікаў). Аўторак — найлепшы для прадпрымальнікаў і гандляроў. У чацвер чакай перамен.

**(23.11. — 22.12.)** Зважай на тое, што гучыць лішне добра, каб быць праўдай. Выкарыстай свае творчыя магчымасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Любая інфармацыя з гэтага тыдня будзе карысная ў розных сферах твайго жыцця. Ды не спяшайся пачынаць новыя справы ў сераду.

**(23.12. — 20.01.)** Бізнесменаў чакаюць непрыемныя сюрпрызы ад калег. Будуць такія, хто схоча вас зрабіць падначаленым. У панядзелак кінь прагу паўтарытарнічаць. Вышэйшыя сілы памогуць табе адолець праблемы ў аўторак. У пятніцу канчай справы і павыкідвай непатрэбшчыну.

**(21.01. — 19.02.)** Будзь адважны, рашучы і бяры быка за рогі — справішся з усім у канцы ліпеня. Калі не дасі рады, звярніся да сяброў. Калі маеш далёкія і важныя планы, адважся прыцягнуць да іх рэалізацыі ўплывовых сяброў і радню. У панядзелак можаш пачаць любую складаную справу. У пятніцу твае пачуцці могуць намяшаць у кар'еры.

**(20.02. — 21.03.)** Дойдуць да цябе важныя весткі. Будзе лепш чым думаеш, а грошы паплывуць струмянём. Усе справы дакладна планый, нічога не ўпусці. Займіся і грамадскімі справамі. Рыбы з 24-28.02. маюць шанц на аздараўленне з цяжкай хваробы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Усё пачалося ад зажынак





Адным з найважнейшых момантаў мерапрыемства было сімвалічнае паляванне на оленя, якому спадарожнічала песня «Олень по бору ходіт» Жэмэрва

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**VIII Падляшска-Палескія жніўныя сустрэчы «Олень по бору ходіт» першы раз у гісторыі гэтага мерапрыемства распачаліся ад *зажынак*, якія ў мінулым найчасцей адбываліся ў суботу або перад самым святкаваннем Пятра і Паўла, бо гэтыя дні лічыліся *лёгкімі* да працы. У суботу, 14 ліпеня, на полі вёскі Гарадзіска Нарваўскай гміны, распалажаным побач даязной дарогі ў сяло, сабраліся палешукі і падляшукі, адным словам беларусы, каб абрадам *зажынак* распачаць чарговае мерапрыемства, ладжанае Музеем малой айчыны ў Студзіводах у супрацоўніцтве з гміннымі самаўрадамі. Мела яно адбывацца на працягу звыш двух тыдняў на тэрыторыі некалькіх гмін.**

— Выступленні вакальных калектываў працей ладзіць у адным месцы, але мы хочам вяртацца да вытокаў нашых традыцый і даходзіць са сваімі мерапрыемствамі да найстарэйшых жыхароў, якія памятаюць песні і абрады з доседу. Часам адна бабулька, захопленая выступамі калектыву, дае нам больш задавальнення, чым магла б даць нам шматлюдная публіка, сабраная ў адным месцы. Калі мы з даўнімі песнямі ездзім па вёсках, спатыкаюць нас людзі, якія не дабраліся б на выступы ў Студзіводы. Зацікаўленне традыцыйным спевам у некаторых сёлах вельмі вялікае. Напрыклад, у Рэйпічах, дзе прыблізна дваццаць хат, сустракала нас пад дзвесце чалавек. Мясцовыя людзі, жыхары суседніх сёл і выхадцы спецыяльна прыехалі на радзіму, каб паслухаць палешукоў і нашых спевакоў, — яшчэ да пачатку мерапрыемства сказаў галоўны яго арганізатар, старшыня студзіводскага музейнага аб’яднання Дарафей Фіёнік.

Спачатку сабраныя ў Гарадзіску са спевам прайшліся па вёсцы з-пад крыжа, распаложанага непадалёк ад лесу, на поле, што знаходзілася зараз за вёскай, у напрамку шашы Гайнаўка — Нарва. Праз прыпушчанскае сяло крочылі яго жыхары і выхадцы з Гарадзіска, спевакі з вёскі Балата з-пад Кобрына, якія першы раз прыбылі на Беласточчыну, «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева і «Жэмэрва», частыя госці мерапрыемстваў ладжаных Студзіводскім музеем, і калектыў «Падляшанкі», які ад двух гадоў выступае ад імя вёскі Гарадзіска. Жанчыны і мужчына з гэтага сяла спявалі раней у «Крыўчанках», але калі жанчыны з Крыўца перасталі спяваць, музычны гурт быў пераведзены ў вёску Гарадзіска. Перад *зажынкамі* сабраныя, сярод якіх быў нарваўскі войт Андрэй Плясковіч і старшыня Рады гміны ў Нарве Ева Урбановіч, памаліліся, а настаяцель Ласінскага прыхода протаіерэй Георгій Кос благаславіў працу на полі. Жанчыны з Палесся і «Падляшанкі» з сярпамі ў руках распачалі зажынаць жыта, а мужчыны выканалі са збожжа *пярэвяслы* і звязалі снапы. Жніўныя песні ў выкананні паасобных калектываў стварылі на полі незвычайную атмасферу.

— У мінулым калыскі на палях былі неад’емнай часткай жніўнага ландшафту. Калі нованароджанаму дзіцяці мінала 2-3 месяцы, маці ішла з ім на поле працаваць, а старэйшыя дзеткі калыхалі немаўлятка, — удакладніў Дарафей Фіёнік, калышучы пазычанае ад адной з жанчын маленькае дзіцё ў сваёй даўняй драўлянай калысцы.





Адным з найважнейшых момантаў мерапрыемства было сімвалічнае паляванне на оленя, якому спадарожнічала песня «Олень по бору ходіт». Аб даўняй традыцыі жніўнага палявання, якое мела забяспечыць у мяса жняцоў, нагадвала даўняя вялікая макатка з вывамі аленяў, якую трымалі мужчыны над жытам, і вялікая труба, з дапамогай якой Тамаш Суліма са студзіводскага музея заклікаў аленяў выйсці з лесу.

— У нас яшчэ да нядаўна адна жанчына жала свой невялікі ўчастак збожжа сярпом і ўсё яго малацıла цэпам. Калі ў нас зараз большыя прысядзібныя ўчасткі збожжа, мы наймаем камбайн, — сказалі жанчыны з сяла Балата і дабавілі, што некаторыя з іх пякуць яшчэ *пірог*, а нават і цёмны хлеб, трымаючыся традыцыйных бабуліных рэцэптаў.

— Наш калгас разляцеўся і асноўнае поле ад яго абрабляе прыватны ўласнік. Гадуе ён каля дзвюхсот кароў і іншага быдла, наймаючы людзей да працы. За работу ад васьмі гадзін раніцы, да васьмі гадзін вечара плаціць сто тысяч рублёў, прыблізна дванаццаць долараў і гэта лічыцца ў нас добрай зарплатай. Нашыя жыхары абрабляюць па 2-3 гектары поля, гадуюць па кароўцы і па некалькі свіней, каб было сваё харчаванне, — расказваў старэйшы спявак з вакальнага калектыву з вёскі Балата.

Пасля *зажынак* сабраныя перайшлі пад вясковы клуб і пад адкрытым небам калектывы выступілі са жніўнымі і іншымі фальклорнымі песнямі. Паслухаць спеву прыйшлі старэйшыя і маладыя жыхары Гарадзіска. «Жэмэрва» распачала народнае спяванне песняй «Олень по бору ходіт». Студзіводскія спевакі запісалі яе ад Марыі Дзмітрук з суседняй Ласінкі.

— Гэтая даўняя песня захавалася таксама на Бельшчыне. Мелодыя яе падобная, толькі ў розных вёсках адрозніваецца словамі, — удакладніў Дарафей Фіёнік і дабавіў, што летнія спевы не былі ўжо такімі вясёлымі, як вясенія і таму па Гарадзіску не вадзілі карагодаў.

На канцэрт сышліся таксама старэйшыя асобы, якія не рашыліся ісці ў поле. Людзі вынеслі драўляныя лаўкі і селі на супрацьлеглым ад клуба боку вуліцы. У дзень жніўных сустрэч перад вясковай і прыезджай публікай удала выступілі таксама калектыў з Балата, «Хмелеўскія валацугі» і «Падляшанкі» з Гарадзіска. Спяваюць у гэтым калектыве Анна Тэслюк і Надзея Асіпюк з Гарадзіска, Вольга і Люба Масайла з Прыбудак, Анна Паўлючук і Гражына Люнда з Барысаўкі.

— Я жыву ў Гарадзіску ўжо звыш дваццаці гадоў і за гэты час не ладзілася тут музычнае мерапрыемства. Можа таму сёння жніўныя сустрэчы карыстаюцца тут так вялікім зацікаўленнем. Маладыя выехалі ў гарады, але ёсць яшчэ ў нас некалькі гаспадароў, якія разгарнулі сельскую прадукцыю, — сказала Міраслава Нікаnчук, якая на фалькорны канцэрт прыйшла з мужам, цешчай і дзеткамі.

— *Зажынкі* былі вельмі важным момантам у жыцці вясковых людзей. Бывала, што летам не хапала ўжо збожжа на муку і таму з першага жыта людзі пяклі першы хлеб, а першы сноп жыта ставілі на Куццю (перад Раством Хрыстовым — А. М.) у кутку хаты. Людзі ў час *зажынак* дзякавалі Богу за тое, што дачакаліся першага ўраджаю і прасілі дапамогі ва ўборцы збожжа з поля, — сказаў Дарафей Фіёнік і дабавіў, што аднак *дажынкі* былі самым важным момантам у жніўных абрадах, калі людзі радаваліся ўсяму сабранаму збожжу, якое град, ці бура маглі знішчыць таксама ў час жніва, што мы бачым у апошніх гадах у Польшчы і на свеце.

Дажынкавыя абрады ў рамках жніўных сустрэч маюць адбыцца ў канцы ліпеня. У тым часе Музей малой айчыны ў Студзіводах у сваіх памяшканнях ладзіць дзеткам і моладзі этнаграфічна-фальклорныя майстар-класы «Лета з традыцыяй», у час якіх народныя творцы будуць вучыць маладых людзей выбранаму рукадзеллю, народным абрадам, спевам і танцам. 15 ліпеня калектывы з Палесся прайшлі са спевам праз Казлы, выступілі ў Відаве, Рэйпічах і Студзіводах, а першая частка мерапрыемства закончылася юбілейным канцэртам бельскай «Маланкі» і «Хмелеўскіх валацуг» на ператочы перад клуняй Дарафея Фіёніка, распаложанай па Зімовай дарозе ў Студзіводах. Нагодай для юбілею было святкаванне 70-годдзя жыцця Юліяніі Фіёнік, маці Дарафея, актыўнай студзіводскай беларускай дзяячкі.

— Мая маці Юліянія з’яўляецца скарбнікам у нашым аб’яднанні і вельмі многа працуе ў карысць нашага музея і беларускай справы, а таксама актыўна дзейнічае ў Студзіводах. На юбілей прыйшлі амаль цэлыя Студзіводы, разам было пад дзвесце чалавек. На 150 асоб падрыхтавалі мы сядзячыя месцы, іншых угасціць стоячы, а выступы «Маланкі», якая ад шасці гадоў дзейнічае пад патранатам нашага музея (музей выступае за сродкі на дзейнасць «Маланкі»), нашай маме вельмі падабаюцца, — расказваў Дарафей Фіёнік.

Калектывы з Палесся ў рамках жніўных сустрэч будуць выступаць 29 ліпеня ў Такарах перад паломнікамі пасля літургіі, у рамках святкавання стагоддзя дзейнасці тамашняй царквы. Пазней у гэты дзень будуць выступаць у Вілінаве, перад тамашняй публікай, дзень раней жніўнае мерапрыемства будзе праходзіць у Студзіводах, а два дні раней мае адбыцца канцэрт у Паўлавічах.

ISSN 0546-1960